*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
22
ЛЮТАГА
1991 г.
№ 8 (3574)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)


## ЧЫТАЙЦЕ





Сонца ўжо высока...

Фотаэцюд А. КЛЕШЧУКА.

## «ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ»

Пад такою назвай з 19 па 21 лютага ў Мінску Беларускі экалагічны саюз вёў міжнародны навукова-практычны семінар. Тры дні ў БДУ імя Леніна напружана працавалі радыебіёлагі, эколагі, фізікі, медыкі, рэлігійныя дзеячы, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый. У рабоце семінара прыняла ўдзел дэлегацыя з Германіі ў складзе 22 чалавек—членаў арганізацыі «Жыццё пасля Чарнобыля».

Вёў семінар віцэ-прэзідэнт Беларускага экалагічнага саюза прафесар Я. Пятраеў. З дакладам «Радыеэканамічныя і радыебіялагічныя наступствы аварыі на ЧАЭС» выступіў народны дэпутат БССР акадэмік Я. Канапля. Адбылася навуковая дыскусія, прынята выніковая дэкларацыя.

Нататкі з семінара — у бліжэйшых нумарах «ЛіМа».

# Кола Дзён

**14 лютага**

дэпутаты Вярхоўнага Савета рэспублікі на закрытым пасяджэнні абмеркавалі пытанні, звязаныя з рэформай цэнаў, і прынялі адпаведную пастанову. Парламенцкія таямніцы, аднак, аказаліся ці не сакрэтам палішынеля. Зрэшты, ужо цяпер вядомыя і памеры павышэння цэнаў (у сярэднім на 60 працэнтаў) і, у прынцыпе, памеры кампенсацыі. Дата павышэння, як і ўсё астатняе, будзе вызначана, хутчэй за ўсё, Цэнтрам.

Каля двух дзесяткаў студэнтаў Белдзяржуніверсітэта і медінстытута (некаторыя — навучэнцы з арабскіх краін) узялі ўдзел у маршы пратэсту па праспекце Леніна ў Мінску. Яны неслі плакаты: «Садам Хусейн, прэч з Кувейта!», «Мы імкнёмся да міру».

**15 лютага**

у Маскве сустрэліся міністр замежных спраў СССР А. Бясмертных і міністры замежных спраў саюзных рэспублік. Удзельнікі сустрэчы, якая, дарэчы, праводзілася ўпершыню, дамовіліся стварыць Савет міністраў замежных спраў рэспублік з мэтай іх узаемадзеяння ў знешняй палітыцы. У нарадзе ўдзельнічаў міністр замежных спраў БССР П. Краўчанка.

**16 лютага**

у Мінсавеце прайшло пасяджэнне Грамадзянскага клуба Беларусі, на якое разам з дэпутатамі розных узроўняў былі запрошаны прадстаўнікі партый, грамадска-палітычных арганізацый і рухаў з 15 гарадоў рэспублікі. Грамадзянскі савет абмеркаваў пытанне аб рэферэндуме 17 сакавіка і прапанаваў свой варыянт пытанняў. Савет заклікаў дэпутатаў усіх узроўняў падтрымаць Рэспубліканскі дэпутацкі клуб, створаны дзеля аб'яднання і каардынацыі дэмакратычных сіл Беларусі.

У Маскве адбылася сустрэча кіраўнікоў Беларусі, Казахстана, РСФСР, Узбекістана і Украіны. Было вырашана стварыць пастаянную каардынацыйную групу з прадстаўнікоў гэтых рэспублік. Група павінна будзе кантраляваць узаемныя пастаўкі па эканамічных дагаворах між рэспублікамі, а таксама дапамагаць прадпрыемствам выконваць дагаворныя абавязацельствы.

**18 лютага**

пачалася пятая сесія Вярхоўнага Савета СССР. Прэзідэнт СССР, пастаянныя фарміраванні парламента, дэпутацкія групы ўнеслі на разгляд сесіі больш як сто пытанняў. У парадак дня ўключаны 47. 15 законапраектаў павінны быць разгледжаны на працягу бліжэйшага месяца. Сярод іх— законы аб асновах прадпрымальніцтва ў СССР, аб раздзяржаўленні ўласнасці і прыватызацыі, аб парадку ўезду і выезду ў СССР. Вярхоўны Савет зацвердзіць склад кабінета міністраў. Парламент пачаў работу з абмеркавання даклада прэм'ер-міністра СССР Паўлава аб рэформе цэн.

**19 лютага**

ЦТ перадало ў прамой трансляцыі інтэрв'ю са Старшынёй Вярхоўнага Савета РСФСР Б. Ельцыным. Расійскі лідэр, сярод іншага, крытыкаваў палітыку Цэнтра і выказаўся за адстаўку Прэзідэнта СССР.

**З ПОШТЫ ТЫДНЯ**

# НІ ГРОШАЙ, НІ ТАВАРУ

Наперадзе нас чакае рэзкае павышэнне цэн ці не на ўсе спажывецкія тавары. І тут вельмі важна, каб гэтыя «лекі» для хворай эканомікі далі патрэбны эфект. Цэны павінны садзейнічаць жаданню працаваць больш і лепш. Але адно толькі павышэнне цэн, якое б яно дакладнае ні было, паправіць сітуацыю не ў стане. Нават пры самых лепшых варунках тавары ў свабодным продажы паявяцца не ўсе і не адразу. Адкладзены попыт у выглядзе ўкладаў грамадзян на рахунку ашчаднага банку застанецца. Тым часам спіраль інфляцыі будзе раскручвацца і надалей. Вось тут і высвятліцца, ці мае намер урад абараняць інтарэсы сваіх грамадзян. Бо ясна, што найбольшы працэнт грошай (у адносінах да велічыні свайго даходу) маюць на рахунках ашчадбанка тыя, хто не «прымацаваны» да якога-небудзь размеркавальнага карыта, не мае адпаведных сувязей, не жадае растрачваць свае заробленыя цяжкай працай рублі на алкаголь або на непатрэбныя рэчы. Гэтыя людзі атрымалі меней, чым зарабілі, і розніцу паміж жабрацкім заробкам і жабрацкімі сваімі тратамі даверылі дзяржаве, тым самым павялічыўшы і без таго рэкордную ступень сваёй эксплуатацыі. Цяпер жа, пры нястрыманым руху цэн, гэтыя грошы, адкладзеныя сумленнымі людзьмі, можа, на апошнія свае патрэбы на гэтай Зямлі, будуць з нарастаючай хуткасцю абясцэньвацца. Так што абарона ўкладаў грамадзян — гэта першаснова любога маральнага падыходу да правядзення фінансавай палітыкі ў перыяд пераходу да рынку.

Наш рэспубліканскі парламент прыняў рашэнне аб індэксацыі ўкладаў насельніцтва. Аднак мы ведаем, як у нас выконваюцца рашэнні і нават законы. Саюзны прэм'ер аб такой індэксацыі нічога не гаворыць, затое ён вельмі часта гаворыць аб неабходнасці правядзення аднолькавай фінансавай палітыкі на ўсёй тэрыторыі Саюза. Вось тут і задумаешся.

Лічу, што пры такіх акалічнасцях кіраўніцтва нашай рэспублікі павінна праявіць волю і паслядоўнасць у выкананні сваіх уласных рашэнняў. Індэксацыя пры гэтым магла б праводзіцца ў два этапы: першая, частковая — адразу ўслед за змяненнем дзяржаўных цэн, і другая, больш выверапая, — па выніках года. Зразумела, індэксацыя павінна праводзіцца толькі для ўкладаў грамадзян рэспублікі, інакш гэта выкліча нездаровы прыток грошай з іншых рэгіёнаў краіны. Канечне, тут не абыдзецца без складанасцей. Ды толькі ясна адно: невыкананне рашэння аб індэксацыі ўкладаў прывядзе да апошняй ступені даверу да рубля, сацыяльнай апатыі насельніцтва, яшчэ большага разбалансавання грашова-таварных адносін.

**А. УРБАНОВІЧ.**

г. Гомель.



## «ПАЎТОР ПРОЙДЗЕНАГА»

— пад такой назвай 12 лютага ў Доме літаратара адбыўся «Круглы стол» часопісаў «Дружба народов» і «Полымя». Цікавая і надзённая тэма («белыя плямы» ў літаратурным працэсе, вяртанне рэпрэсіраваных, незаслужана забытых твораў, літаратура, створаная ў эміграцыі, і інш.), а таксама прадстаўнічы кантынгент удзельнікаў паспрыялі таму, што гутарка адбылася шчырая і зацікаўленая.

У «Круглым стале» прынялі ўдзел маскоўскія крытыкі Леў Анінскі і Юрый Тамашэўскі, загадчык аддзела прозы «Дружбы народов» Аляксандр Архангельскі, літоўскі крытык Пятрас Бражэнас, асецінскі пісьменнік Нафі Джусойты, латышскі паэт і перакладчык Кнут Скуеніекс, а таксама Вячаслаў Рагойша, Барыс Сачанка, Тамара Чабан, Іван Чыгрынаў.

Вялі пасяджэнне загадчык аддзела крытыкі і бібліяграфіі часопіса «Дружба народов» Наталля Ігрунова і галоўны рэдактар «Полымя» Сяргей Законнікаў.

Матэрыялы «Круглага стала» будуць надрукаваны ў часопісах.

**А. ФЕДАРЭНКА.**

# Хроніка Адраджэння

Утворана Маскоўская асацыяцыя беларусістаў. Старшынёю выбраны археолаг Валянцін Сядоў.

●

12 лютага ў Доме літаратара прайшоў вечар памяці Фёдара Янкоўскага. На ім гучалі ўспаміны пра таленавітага вучонага-мовазнаўцу, адзначалася важнасць яго навуковых прац.

●

У Беластоку адбыўся першы гадавы сход Беларускай Дэмакратычнай Асацыяцыі. БДА, як вядома, абараняе правы беларусаў Польшчы і будзе змагацца за стварэнне ў Польшчы Рады беларускіх арганізацый.

●

У рэдакцыйным артыкуле лютаўскага нумара нью-йоркскай газеты «Беларус», прысвечаным году Максіма Багдановіча, прагучаў заклік да беларускае моладзі працягваць светлы шлях паэта, каб сумеснымі высілкамі дамагчыся свабоды і дабрабыту Бацькаўшчыны.

## Сустрэча з «гедэонавымі братамі»

**«Гедэон» — сусветная хрысціянская місія міласэрнасці, кэмпы (цэнтры) якой існуюць больш чым у 140 краінах. Улетку мінулага года ўзнік як кэмп і ў Мінску. На пачатку лютага ў рэдакцыі пабываў і выступіў перад супрацоўнікамі прэзідэнт мінскага кэмпа місіі «Гедэон» Герман Родаў.**

**«Наша мэта — евангелізацыя народаў, бясплатнае распаўсюджанне Бібліі і Новага Запавету ў школах, ВНУ, турмах, вайсковых частках, гатэлях, — сказаў Г. Родаў. — Божае слова сёння — святло ў грахоўнай цемры».**

**Ю. З.**

**ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР**

# ЯК ЦЯПЕР ПЛАЦІЦЬ ПАДАТКІ?

**З 1 ліпеня 1990 г. уступіў у сілу Закон СССР «Аб падаходным падатку з грамадзян СССР, замежных грамадзян і асоб без грамадзянства». Па-новаму вызначаны парадак налічэння і збору падатку з аўтарскіх узнагароджанняў.**

**Наш карэспандэнт звярнуўся да начальніка Дзяржаўнай падатковай інспекцыі Мінфіна БССР па г. Мінску Маі Васільеўны АЙДАРАВАЙ з просьбай расказаць, як гэты закон будзе ажыццяўляцца.**

— Падаходны падатак налічваецца з гадавой сумы атрыманага аўтарскага ўзнагароджання з усіх крыніц. Уведзены дыферэнцыраваныя стаўкі падаткаабкладання з даходу, які перавышае 8400 руб.

Раней падатак браўся асобна па кожным месяцы выплаты: з даходу да 180 руб.—1,5 працэнта, ад 181 да 1200 руб. — па стаўках ад 5,5 да 12 працэнтаў, а з даходу, які перавышае 1200 руб., ужывалася адзіная стаўка 13 працэнтаў. Цяпер па тых жа стаўках бярэцца падатак пры даходзе да 8400 руб. у год.

З даходу ад 8401 да 10800 падатак складае 1034 руб. 40 кап. плюс 15 працэнтаў з сумы звыш 8400 руб.; ад 10801 да 13200—1394 руб. 40 кап. плюс 20 працэнтаў з сумы звыш 10800 руб.; ад 13201 да 15600 — 1874 руб. 40 кап. плюс 30 працэнтаў з сумы звыш 13200 руб.; ад 15601 да 18000— 2594 руб. 40 кап. плюс 40 працэнтаў з сумы звыш 15600 руб.; ад 18001 да 36000 — 3554 руб. 40 кап. плюс 50 працэнтаў з сумы звыш 18000 руб.; ад 36001 і вышэй — 12554 руб. 40 кап. плюс 60 працэнтаў з сумы звыш 36000 руб.

**— З каго бяруць падатак?**

— Падаходны падатак з аўтарскіх узнагароджанняў плацяць аўтары твораў навукі, літаратуры і мастацтва, аўтары перакладаў такіх твораў, тыя, хто ажыццяўляе рэдагаванне і рэцэнзаванне ўказаных твораў і іншыя грамадзяне, якія адпаведна з заканадаўствам аб аўтарскім праве атрымліваюць аўтарскае ўзнагароджанне. У такім жа парадку абкладаюцца і аўтары адкрыццяў, вынаходніцтваў і прамысловых узораў.

**— Якія абавязкі ў сувязі з новым парадкам падаткаабкладання ўскладзены на прадпрыемствы і арганізацыі?**

— На працягу года падатак налічваецца і ўтрымліваецца непасрэдна па месцы выплаты ўзнагароджання. Пры кожнай наступнай выплаце робіцца пераразлік падатку па агульнай суме выплат у бягучым годзе па месцы выплаты. Штогод, не пазней за 1 лютага, прадпрыемствы, установы і арганізацыі, якія рабілі выплаты ўзнагароджанняў, абавязаны прадстаўляць у падатковую інспекцыю звесткі аб выплачаных грамадзянам за мінулы год сумах узнагароджанняў і ўтрыманых падатках. Падатковая інспекцыя перасылае гэтыя звесткі ў інспекцыі па месцы жыхарства грамадзян з мэтай правільнага і поўнага падаткаабкладання гадавога даходу.

**— А якія абавязкі грамадзян-плацельшчыкаў падатку?**

— Адпаведна закону грамадзяне абавязаны не пазней **1 сакавіка** прадставіць у падатковую інспекцыю дэкларацыю аб фактычна атрыманай за мінулы год суме аўтарскага ўзнагароджання, указаць прад-

# Куды нам ісці і як?

## Ці «працуе» сёння марксізм-ленінізм?

ЭКАНАМІЧНЫЯ адносіны ў нашым грамадстве складаныя і супярэчлівыя. Зразумець іх не проста, але неабходна, бо нельга вызначыць, куды і як ісці далей. Шматлікія публікацыі аб характары нашага грамадства, яго сацыяльна-эканамічнай структуры, жывая практыка даюць падставу зрабіць нейкія абагульненні і вывады пра сацыялізм, збудаваны ў СССР, ахарактарызаваўшы яго як адзяржаўлены сацыялізм.

Становіцца ўсё больш відавочным, што камандна-адміністрацыйная мадэль нашага грамадства не мае нічога агульнага з навуковым сацыялізмам.

У савецкай грамадскай навуцы да нядаўняга часу панавала сістэма поглядаў аб заканамерным характары з'яўлення на гістарычнай арэне новага, болей развітога ў параўнанні з капіталізмам грамадства — сацыялізму. Канцэпцыя пераходу да сацыялізму грунтавалася на наступных тэарэтычных палажэннях: матэрыяльная, сацыяльная і ідэалагічная перадумовы такога пераходу фарміруюцца самім капіталізмам у ходзе яго ўласнага развіцця. Узнікненне сацыялізму ёсць аб'ектыўны вынік вырашэння асноўнай эканамічнай супярэчнасці капіталістычнай фармацыі — паміж грамадскім характарам вытворчасці і прыватнакапіталістычнай формай прысваення яе вынікаў. Станаўленне сацыялізму займае асобны гістарычны пераходны перыяд, бо эканамічныя адносіны, характэрныя для сацыялізму, не могуць узнікнуць у межах капіталізму з прычыны антаганізму прыватнай і грамадскай уласнасці. Лічылася таксама, што працягласць пераходнага перыяду вызначаецца спеласцю сацыялістычных перадумоў у канкрэтнай краіне, уздзеяннем аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў (унутраных і знешніх), якія набываюць асаблівае значэнне менавіта для гэтай краіны. Ва ўсіх краінах пераход да сацыялізму характарызуецца адзінай палітыка-эканамічнай сутнасцю — шматукладнасцю. У межах пераходнага перыяду фарміруецца эканамічны базіс сацыялізму. Адбываецца гэта шляхам абагульнення сродкаў вытворчасці — выключэння іх з прыватнай уласнасці і ператварэння ў аб'ект грамадскай уласнасці. Прыладаю такога абагульнення з'яўляецца дыктатура пралетарыяту. Грамадская ўласнасць становіцца эканамічнай асновай сацыялізму.

Аднак любыя тэорыі правяраюцца практыкай, а практыка сведчыць, што сацыялізм, як эканамічная сістэма, у навуковым сэнсе гэтага паняцця не пабудаваны ні ў нашай краіне, ні ў якіх-небудзь іншых краінах, якія пасля вайны імкнуліся капіраваць наш вопыт.

Гістарычны вопыт паставіў пад сумненне правамернасць палажэння аб рэвалюцыйным пераўтварэнні капіталізму ў сацыялізм пры дапамозе дыктатуры пралетарыяту, выкладзенага К. Марксам у «Крытыцы Гоцкай праграмы», а таксама У. І. Леніным у працах «Дзяржава і рэвалюцыя», «Чарговыя задачы савецкай улады», «Вялікі пачын» і іншых. Справа ў тым, што марксісцка-ленінская мадэль пераходу да сацыялізму выяўляла спецыфіку раннеманапалістычнага капіталізму. На пачатку XX стагоддзя капіталістычная сістэма сапраўды была на мяжы сацыялістычнай рэвалюцыі. Але гэтую мяжу перайшлі толькі «ваколіцы» капіталістычнага свету — найбольш слабыя звенні. Развітая ж група краін утрывала і з 50-х гадоў перайшла ў якасна новы стан «постіндустрыяльнага» грамадства. Вось чаму марксісцка-ленінскую мадэль пераходу да сацыялізму належыць прызнаць па многіх момантах гістарычна абмежаванай.

Па сутнасці, мы абсалютызавалі спецыфіку тых гістарычных абставін і надалі тым самым ленінскай мадэлі пераходу да сацыялізму пазагістарычны характар. У выніку сацыялістычныя змены і ў сучасным капіталізме звязваліся намі з абавязковым нарастаннем рэвалюцыйнай сітуацыі ў выглядзе эканамічных і сацыяльных катаклізмаў. Адсюль зразумела, чаму мы аднабакова бачылі толькі негатыўныя з'явы капіталістычнай эканомікі і не звярталі ўвагі на ўсё пазітыўнае, на вопыт сусветнай цывілізацыі.

Класікі марксізму-ленінізму вызначылі таксама асновавызначальныя крытэрыі, рысы сацыялізму, якія нібыта прыдатныя для ўсіх краін: усеагульнасць працы, знішчэнне ў грамадстве эксплуатацыі, беспрацоўя, сацыяльная абароненасць чалавека. Адзінства асабістай, калектыўнай і грамадскай зацікаўленасці людзей у працоўнай дзейнасці і яе выніках. Сацыяльная справядлівасць, якая рэалізуецца ў размеркаванні матэрыяльных і духоўных даброт па працы. Арганічнае адзінства планамернасці і таварных адносін, гаспадарча-разліковая форма індывідуальнага ўзнаўлення.

Адзначаныя рысы сацыялізму ў сваёй сутнасці зводзяцца да падпарадкавання вытворчасці свабоднаму, усебаковаму развіццю чалавека, калі свабоднае развіццё кожнага становіцца ўмоваю свабоднага развіцця ўсіх. У нашай краіне і ў большасці краін, якія быццам бы ажыццявілі пераход да сацыялізму, узровень развіцця вытворчых сіл быў недастатковым для пераходу да абагульненай вытворчасці. Паколькі, напрыклад, у нашай краіне пераважала дробнатаварная вытворчасць, то абагульненне ў дарэвалюцыйнай эканоміцы насіла фрагментарны характар. Адсутнічаў адзін з важнейшых элементаў вытворчых сіл — высокі культурна-тэхнічны ўзровень працаўнікоў, іх сацыяльна-гаспадарчых навыкаў, што паступова фарміруе капіталізм. Да гэтага належыць дадаць яшчэ і спецыфічныя ўмовы Расійскай імперыі: яе шматнацыянальны склад і розны ўзровень эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця народаў.

Не толькі ў нашай краіне, але і ў адносна болей развітых краінах, дзе дэфармацыі не былі гэтакімі глыбокімі і шырокімі, развіццё сацыялізму набыло такія формы, якія дазваляюць з вядомай умоўнасцю вызначыць гэтую раннюю, параўнальна прымітыўную форму сацыялізму як адзяржаўлены сацыялізм альбо дзяржаўны сацыялізм.

Адзяржаўленне прывяло да дэфармацыі родавых рысаў сацыялізму: замена прыватнай уласнасці грамадскай ператварылася ва ўсталяванне манаполіі дзяржаўнай уласнасці. Калгасная сістэма не стала кааператыўнай, а ператварылася ў дадатак да дзяржаўнай манаполіі; «гуманізацыя» адносін найлепей праявілася ва ўтварэнні дзяржаўнай уласнасці на рабочую сілу. Практыкай найму рабочы быў юрыдычна замацаваны за рабочым месцам, а прыпіскай яго замацавалі да месца жыхарства. Шырока стала выкарыстоўвацца праца зняволеных, мэтаю функцыянавання сістэмы аказалася экстэнсіўнае накапленне дзеля накаплення; усталявалася нізкая зацікаўленасць працаўнікоў у выніках працы, якая стала асабліва згубнай ва ўмовах паскарэння НТП; размеркаванне па працы ператварылася ў размеркаванне па месцазнаходжанні працаўнікоў у дзяржаўнай іерархіі і адначасова праяўляецца праз ураўнілаўку і прывілеі; планамернае развіццё перайшло ў камандна-мабілізацыйнае гаспадаранне, у татальнае рэгуляванне эканамічных працэсаў партыйна-дзяржаўным апаратам, якое забяспечваецца як прымусовым, так і ідэалагічным уздзеяннем.

Доўгатэрміновае накапленне дэфармацый у СССР прывяло да ўтварэння дзяржаўна-бюракратычнага сацыялізму на грунце адміністрацыйна-каманднай сістэмы.

Крызіс дзяржаўнага сацыялізму выяўляецца ў шматлікіх з'явах. Хоць У. І. Ленін і сцвярджаў, што любая манаполія, не толькі эканамічная, але і палітычная тоіць у сабе загніванне з усімі негатыўнымі наступствамі, тым не меней правадыр і яго паплечнікі Л. Троцкі, М. Бухарын, І. Сталін былі натхніцелямі і арганізатарамі палітычнай манаполіі адной адзінай партыі на ўладу, а таксама манапалізацыі эканомікі.

Асабліва небяспечнай з'яўляецца манаполія ў эканоміцы пры пераходзе да рыначных адносін. У імкненні ўсё ахапіць і ўсё рэгуляваць у СССР на працягу 70 гадоў у галоўных галінах народнай гаспадаркі ажыццяўлялася палітыка канцэнтрацыі і вузкай спецыялізацыі. У вытворчасці падшыпнікаў, напрыклад, узровень манапалізацыі адной фірмай выпуску большасці іх відаў складае 95 — 98 працэнтаў. Яшчэ большая манапалізацыя прамысловай вытворчасці на ўзроўні рэгіёнаў. На Беларусі, напрыклад, ёсць толькі адзін завод халадзільнікаў. Высокі ўзровень манапалізацыі з'яўляецца тыповым для машынабудавання, хімічнай прамысловасці і шэрагу іншых галін.

Цяжкасці выхаду з гэтай сітуацыі відавочныя. Неабходна карэнная структурная перабудова, доўгатэрміновая палітыка ўдасканалення ўнутрыгаліновых і міжгаліновых сувязей, жорсткае антыманапольнае заканадаўства.

Адзяржаўленне эканомікі суправаджалася ўзмацненнем ведамаснага характару ўпраўлення, якое мелася абапірацца на эканамічныя рычагі і формы, а стала чыста адміністрацыйным. Любое прадпрыемства незалежна ад галіны не мела аніякай самастойнасці. Зверху вызначаліся ўсе ўмовы і нарматывы фарміравання вытворчых фондаў, фонду аплаты працы, накаплення і г. д. Утварылася нават так званая ўсесаюзная ўласнасць. Суб'ектамі і адзінымі ўладальнікамі і распарадчыкамі якой сталі ўсесаюзныя міністэрствы і ведамствы.

Манапалізм і бюракратызацыя кіравання выключаюць прадпрымальнасць, а ў сучасных умовах абцяжарваюць пераход да рынку, спрыяюць развіццю «ценявой» эканомікі.

«Ценявая» эканоміка ёсць ва ўсіх краінах свету, нават у самых развітых. Але там яе ўдзельная вага нязначная. Што датычыцца СССР, то тут яна дасягнула вялізных памераў — яе гадавы абарот перавысіў сто мільярдаў рублёў.

Звычайна пад «ценявой» эканомікай разумеюць вытворчасць тавараў і аказанне паслуг насельніцтву, якія не адзначаны ў афіцыйнай эканамічнай статыстыцы. Яна шматбаковая і яе памеры растуць тым хутчэй, чым глыбейшымі становяцца супярэчнасці развіцця народнай гаспадаркі. Асабліва спрыяльныя ўмовы для ценявой эканомікі стварае татальны дэфіцыт.

Крызіс дзяржаўнага сацыялізму ставіць пытанне аб шляхах выхаду з яго. Куды нам ісці і як? На гэты конт ёсць шмат прапаноў. Адны заклікаюць вярнуцца да нэпа. Але ў нас сёння не тыя ўмовы, што былі на пачатку 20-х гадоў. Тады была шматукладная эканоміка, існавала простая таварная вытворчасць, захаваліся дробныя і нават сярэднія прыватныя прадпрыемствы. Нічога гэтага зараз няма. Да рынку мы не можам перайсці, бо яго трэба спачатку стварыць.

Другія лічаць неабходным проста перайсці да капіталізму. Але сёння чыстага капіталізму няма. Ідзе эвалюцыйны пераход яго да сацыялізму. Што тычыць развіцця рыначнага сацыялізму, дык ён не апраўдаў сябе, напрыклад, у той жа Югаславіі.

Нарэшце, ёсць і такая прапанова — забяспечыць развіццё грамадства, навукова-тэхнічны, эканамічны і сацыяльны прагрэс у межах сацыялістычнага выбару.

Генеральны накірунак выхаду з узнікшага крызісу — гэта рух ад дзяржаўнага да новай, больш высокай формы сацыялізму.

Прынцыпова важна тое, што яна павінна стварацца на аснове, па-першае, пераадолення ўзнікшых дэфармацый (пераход ад адміністрацыйна-камандных метадаў гаспадарання да эканамічных, пераадоленне манапалізму, ураўнілаўкі ў размеркаванні, узмацненне матэрыяльнай зацікаўленасці і г. д.), і, па-другое, пошуку і развіцця новых эканамічных форм, якія забяспечваюць больш поўную рэалізацыю прынцыпаў сацыялізму, прымяненне выпрацаваных сусветным вопытам форм эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу.

Важным фактарам абнаўлення эканомікі краіны з'яўляецца інтэграцыя СССР і БССР у сусветную гаспадарку. Гэта шырокае развіццё сумесных прадпрыемстваў, вытворчая інтэграцыя; інтэнсіфікацыя гандлёва-эканамічных адносін на канкурэнтнай аснове; прыцягненне да выкарыстання іншаземных крэдытаў і г. д. Да таго ж, удасканаленне базісных адносін немагчыма без перабудовы палітычнай сістэмы, дэмакратызацыі кіравання, рэальнага народаўладдзя.

**У. КУЛАЖАНКА,**
**доктар эканамічных навук.**

г. Мінск.



Фота А. КЛЕШЧУКА.

рэвалюцыйных настрояў у працоўным сялянстве ва ўмовах паўперызацыі і абеззямельвання. Другім «унутраным» фактарам узнікнення і паступовага развіцця новай беларускай літаратуры ў XIX ст. быў рост народнай самасвядомасці ў дарэформенны час і нацыянальнай пасля 1863 г. Адной з першасных гістарычных прычын яе ўзнікнення (як «вонкавы» фактар) аказалася ўз'яднанне ў адзінай дзяржаве з рускімі, украінцамі, літоўцамі, латышамі і іншымі народамі былой царскай Расіі. Уз'яднанне садзейнічала росту сацыяльна-палітычнай свядомасці ў народзе, яго кансалідацыі, а ў сувязі з гэтым — і абуджэнню ідэі адзінства.

Цікава, што ў зараджэнні новай беларускай літаратуры найбольш значную ролю адыграла мясцовая, так званая краёвая інтэлігенцыя, з асяроддзя якой выйшлі такія вядомыя дзеячы беларускай літаратуры, як Ян Баршчэўскі, Ян Чачот, Аляксандр Рыпінскі, Вікенці Равінскі, Адэля з Устроні, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Янка Лучына, Адам Гурыновіч і шмат іншых. Некаторыя з гэтых пісьменнікаў ставаліся пачынальнікамі новай беларускай літаратуры часта несвядома, кіруючыся пачаткова навукова-этнаграфічнымі інтарэсамі або асветніцкімі ідэямі. Усё гэта ўрэшце прывяло да магутнага адраджэння беларускай літаратуры на пачатку XX ст.

У параўнанні з першым выданнем 1977 г. першая частка новага выдання «Гісторыі беларускай літаратуры» («Вышэйшая школа», 1989) Алега Лойкі шмат у чым дапрацавана і дапоўнена. Напрыклад, у раздзеле чацвёртым «Літаратура 50-х—пачатку 60-х гг.» знаходзім падраздзел пра Уладзіслава Сыракомлю, чаго раней не было. У «Літаратуры парэформеннага саракагоддзя» ў раздзеле пра нашага славутага земляка з Мастаўлян Кастуся Каліноўскага знаходзіцца падраздзел «К. Каліноўскі — паэт», якога таксама не было ў папярэднім выданні. Зменены і дапрацаваны трэці раздзел перыяду парэформеннага саракагоддзя, які раней называўся: «У коле розных ідэйна-мастацкіх тэндэнцый», цяпер жа — «Літаратура 90-х гг. (да 1904 г.)». Удакладнены даты смерці шматлікіх пісьменнікаў, але ў некаторых выпадках усё ж не ўдалося аўтару расшыфраваць даты нараджэння і смерці. Асобныя раздзелы прафесар Лойка прысвяціў такім пісьменнікам, як Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Янка Лучына, Адам Гурыновіч, а таксама ўспомненаму ўжо Кастусю Каліноўскаму.

У цэлым, як піша аўтар, «Беларуская літаратура XIX ст.—гэта рух: унутраны, пакручасты, з драматычнымі і трагічнымі перыпетыямі, працяглымі рэпрэсіўнымі затрымкамі, абрывамі, перападамі, але наперад і толькі. Рух дзеля будучага. Фарміраванне пляцовак пад гэтае будучае». Але ўжо тады,— паводле вучонага,— новая беларуская літаратура прадстаўляла агульначалавечы інтарэс і была з'явай агульнасусветнага значэння.

Шкада, што даследчык усяго адным словам успамінае пра творчасць Лявона Вітана-Дубейкаўскага (1869—1940). Рукапісны зборнік яго вершаў 1893 г. «Мае думы і мыслі» наогул недаследаваны.

Істотна дапрацавана і дапоўнена другая частка «Гісторыі беларускай літаратуры» Алега Лойкі. Акрамя асобных раздзелаў, прысвечаных вядомым пісьменнікам, у новым выданні з'явіліся новыя — пра Змітрака Бядулю і Алеся Гаруна (1887—1920), яшчэ нядаўна зусім забытага. Не можа не цешыць і той факт, што ў дзевятым раздзеле «На шляхах да творчай арыгінальнасці» аўтар упершыню шырэй прадставіў творчыя індывідуальнасці, пра якія раней усяго толькі ўспаміналася: са старэйшых адраджэнцаў Андрэя Зязюлю (1878—1921), з пісьменнікаў «закліку канца 900-х, пачатку 10-х гг.» Антона Навіну (Антона Луцкевіча—1884—1942) і Власта (Вацлава Ластоўскага — 1883—1938), а з «маладзейшых сілаў» — Казіміра Сваяка (1890—1926) і Зоську Верас (народжаную ў 1892 г.). Даследчык удакладніў таксама імя псеўданіма нашага выдатнага творцы з Гарадка Сцяпана Пятэльскага (літаратурны псеўданім — Мікалай Арол).

На жаль, у кнізе й дагэтуль прамоўчваецца пра пісьменніка вельмі складанага і трагічнага лёсу — Францішка Аляхновіча, хоць першая ягоная п'еса «На Антокалі» выйшла ў тым жа 1918 г., што і «Матчын дар» Алеся Гаруна. Ніхто з даследчыкаў не парупіўся таксама канчаткова высветліць акалічнасці смерці гэтага вядомага ў міжваенны час драматурга і паэта, хоць пэўныя спробы гэтага былі зроблены ў нью-йоркскім «Беларусе». Думаю, што надышла пара, каб канчаткова і аб'ектыўна высветліць і ягоны творчы лёс.

Пачатак XX ст., як слушна заўважае на заканчэнне аўтар,—гэта час фарміравання класічных асноў беларускай літаратуры. У той час узніклі не толькі ўзоры беларускай сацыяльна-бытавой, сацыяльна-псіхалагічнай ці алегарычнай прозы, якія паставілі перад беларускай літаратурай задачу стварэння ў ёй буйных форм — перш за ўсё рамана, але і значна пашырыўся абсяг нацыянальнай паэзіі, што праявілася ў разнавіднасці лірычных жанраў: ад паэтычна-рамантычнай і публіцыстычнай да пейзажнай, філасофскай, любоўнай і інтымнай лірыкі. У цэлым — прадстаўнікі беларускай літаратуры сапраўды здзяйснялі «вялікі грамадзянскі подзвіг», які меў вырашальнае значэнне для беларускай культуры.

**Юры ТРАЧУК.**

г. Варшава.

---

**бы звярнуць увагу і належным чынам ацаніць і другі прынцыпова важны момант у гэтай шчырай споведзі В. Дуніна-Марцінкевіча — той менавіта, што ён называе беларусаў «БРАТНІМ ПЛЕМЕНЕМ», якое мае свае звычаі, паданні і «УЛАСНУЮ ГАВОРКУ». Як бачым, Дунін-Марцінкевіч насуперак уяўленням, што панавалі ў польскай грамадскай думцы ў XIX і ў пачатку XX ст., не далучае беларусаў да «польскага племені», а ў тэрмінах свайго часу ВЫЗНАЧАЕ ІСНАВАННЕ САМАСТОЙНАГА БЕЛАРУСКАГА ЭТНАСУ. Гэта сапраўды этапны момант у генезісе беларускай нацыянальнай ідэі, як і тое, вядома, што Дунін-Марцінкевіч, «прасякнуты ладам думак» беларускага племені, прысвяціў яму ў яго роднай мове ўсю сваю мастацкую творчасць.**

У. Казбярук негістарычна і некрытычна падыходзіць да тых матэрыялаў і дакументаў, якія цытуе ў сваім артыкуле. Маю на ўвазе тут літаральна «заезджаныя» ў нашым літаратуразнаўстве выказванні Ф. Багушэвіча і Я. Купалы аб творчасці Дуніна-Марцінкевіча, а таксама яго менш вядомую заяву, адрасаваную Галоўнаму цэнзурнаму камітэту (гэта ж характэрна і для аналізу «Мужыцкай праўды», пра што — ніжэй). Аўтар не ўлічвае таго, што Ф. Багушэвіч, у параўнанні з В. Дуніным-Марцінкевічам, быў прадстаўніком другога, а Я. Купала— трэцяга пакалення дзеячаў нацыянальнага руху, і гэта не магло не адбіцца на ўспрыманні імі твораў свайго папярэдніка.

Што датычыць заявы Дуніна-Марцінкевіча ў Галоўны цэнзурны камітэт, то У. Казбярук, цытуючы яе, павінен быў, як даследчык, звярнуць увагу чытача перш за ўсё на тое, каму яна адрасавана. Менавіта гэтым тлумачыцца вернападданніцкі стыль заявы, і іншым ён не мог быць у тых умовах. Не гэты дакумент, а вытрымка з асабістага ліста Дуніна-Марцінкевіча да сябра, якая цытуецца перад ім, паказвае сапраўдны «лад думак» пісьменніка.

Ніякіх новых дакументаў пра Дуніна-Марцінкевіча аўтар у сваім артыкуле не прывёў. Усё, што ім працытавана, даўно і шырока выкарыстоўваецца даследчыкамі. Таму лічу абсалютна няслушным папрок У. Казберука ў адрас сучасных даследчыкаў, якія «быццам баяцца запляміць аўтарытэт аднаго з найбуйнейшых і найбольш заслужаных пачынальнікаў новай беларускай літаратуры».

РАЗВАЖАННІ наконт Я. Чачота, В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча — усяго толькі невялікі ўступ да галоўнай мэты артыкула — спробы «дэідэалізаваць» постаць К. Каліноўскага, якога, па словах У. Казберука, «нашы гісторыкі, пісьменнікі і публіцысты даўно ўжо абвясцілі чыста і выключна беларускім нацыянальным героем», «рыцарам без страху і заганы». Калі дадзеная ацэнка адносіцца да ўсёй гістарыяграфіі паўстання 1863 г. і ролі ў ім К. Каліноўскага, то яна неаб'ектыўная, не адпавядае сапраўднасці. Але ў асобных працах (І. Лушчыцкі, А. Смірноў, А. Майхровіч, В. Шалькевіч і інш.) тэндэнцыя да ідэалізацыі К. Каліноўскага праявілася дастаткова выразна (замоўчванне таго, што не ўкладвалася ў аўтарскую схему ці не «паддавалася» тлумачэнню, прыпісванне таго, чаго ў яго спадчыне няма).

На жаль, У. Казбярук, узнімаючы такую складаную праблему, нават у самых агульных рысах не акрэсліў асноўныя накірункі ў багатай гістарыяграфіі паўстання 1863 г. і дзейнасці К. Каліноўскага. А гэта ён, як навуковец, павінен быў зрабіць. Тым больш, што ўсе закранутыя ў артыкуле пытанні ў той ці іншай ступені разглядаліся раней, пачынаючы з 20-х гадоў.

У. Казбярук не заяўляе адкрыта, але падводзіць чытача да высновы, што Каліноўскі не лічыў сябе беларусам, не прызнаваў існавання беларускай нацыі, а выступаў ад імя польскага грамадства і ў яго інтарэсах, быў, значыць, палякам. Адпаведныя ацэнкі, толькі больш завостраныя і бескампрамісныя, у 20-я гады даў К. Каліноўскаму С. Агурскі. Ён адкрыта называў К. Каліноўскага «міфічным героем» і характарызаваў яго як польскага патрыёта, мэтай якога з'яўлялася аднаўленне Польшчы ў межах 1772 г. Сваю ацэнку ён падмацаваў спасылкамі на «Мужыцкую праўду» (што робіць і У. Казбярук), а найбольш — на «Пісьмо Яські-гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі Польскай» (яно ў артыкуле У. Казберука чамусьці нават не ўпамінаецца). У названым «Пісьме», адрасаваным беларусам, заяўлялася: «Дзецюкі!.. Мы, што жывемо на зямлі Польскай, што ямо хлеб Польскі, — мы палякі з вякоў вечных...» Спасылаючыся на гэта, С. Агурскі называў К. Каліноўскага польскім шавіністам. І гэтая ацэнка была б справядлівай, калі б аўтарам цытаванага «Пісьма» сапраўды быў Каліноўскі. Але гісторыкі (А. Смірноў) даўно ўжо даказалі, што выданне «Пісьма Яські-гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі Польскай» было здзейснена не ў Вільні, не ў Гродні, а ў Варшаве польскімі шавіністамі з мэтай выкарыстаць у сваіх інтарэсах папулярны псеўданім К. Каліноўскага.

М. Міско, маскоўскі гісторык, беларус па паходжанні, у 1966 г. апублікаваў вялікі артыкул, у якім спрабаваў даказаць, што К. Каліноўскі і яго літоўскі паплечнік, рэвалюцыянер-дэмакрат А. Мацкевіч (Мацкявічус) разглядалі Літву і Беларусь як частку Польшчы і цалкам прымалі праграму польскага паўстанцкага ўрада, якая прадугледжвала ўключэнне Беларусі, Літвы і правабярэжнай Украіны ў склад польскай дзяржавы. Без ценю сумнення М. Міско, як і С. Агурскі, сцвярджаў, што прасякнутае польскім нацыяналізмам «Пісьмо Яські-гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі Польскай» цалкам адпавядала ўсяму таму, што было напісана ці адрэдагавана Каліноўскім, — «Мужыцкай праўдзе», яго загадам і г. д.

ЯК БАЧЫМ, зусім не новыя пытанні ставіць і не па-новаму вырашае іх У. Казбярук у сваім артыкуле. І метад аргументацыі ў яго не новы. Тыя дакументальныя сведчанні, якія «не стыкуюцца» з яго высновамі, ён проста ігнаруе. Маю на ўвазе кнігу паплечніка М. Мураўёва— афіцыйнага гістарыёграфа паўстання генерала В. Ратча з аднаго боку, і ўспаміны шэрагу кіраўнікоў паўстання, віленскіх і варшаўскіх дзеячаў з ліку і «белых» і «чырвоных», якія асабіста добра ведалі К. Каліноўскага, — з другога. В. Ратч, з дазволу дыктатара краю Мураўёва, меў магчымасць карыстацца літаральна ўсімі дакументамі следства, мог наведваць у камерах зняволеных паўстанцаў і гутарыць з імі. Многае з таго, чым



«К. Каліноўскі і В. Урублеўскі на аглядзе паўстанцаў». Рэпрадукцыя карціны П. Сергіевіча.

карыстаўся В. Ратч, да нас не дайшло. І вось гэты аўтар сведчыць, што Каліноўскі «быў чысцейшым прадуктам усіх федэрацыйных фантазій («бредней») «Колокола», што ён «настойліва праводзіў ідэю аб самастойнасці Літвы», што яго партыя «вырашыла канчаткова пазбавіцца ад варшаўскай апекі». «Каліноўскі,— сцвярджае В. Ратч, — прымаў на сябе дыктатуру... Варшаўскі ўрад павінен быў... атрымаць паведамленне, што Літва і Беларусь — самастойная дзяржава». І Ратч зусім не беспадстаўна звязвае такую пазіцыю К. Каліноўскага з пазіцыяй выдаўцоў «Колокола». На перагаворах з прадстаўнікамі Варшаўскага ЦНК у Лондане ў верасні 1862 г. А. І. Герцэн, М. А. Бакунін і М. П. Агароў прама заяўлялі: «Калі ў Расіі на вашым сцягу не ўбачаць: надзел зямлі і волю правінцыям, то наша спачуванне вам не прынясе ніякай карысці». Яшчэ больш выразна гаварылася пра гэта ў іх пісьме «Русским офицерам в Польше»: «Зямля сялянам, самастойнасць абласцям — на гэтай падставе і толькі на ёй можа ўстанавіцца дзейсны саюз ваш з польскімі братамі... Скажам разам з палякамі, быць Літве, Беларусі і Украіне з кім яны быць хочуць ці ні з кім, толькі б волю іх уведаць — не падробленую, а сапраўдную».

**На жаль, польскія шляхецкія рэвалюцыянеры не прыслухаліся да парад рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў. Каліноўскі ж і па аграрным, і па нацыянальным пытанні падзяляў іх погляды. Гэта пацвярджаў і сакратар Варшаўскага нацыянальнага ўрада Ю. Яноўскі. «Ён (Каліноўскі. — М. Б.),—пісаў гэты дзеяч,— не хацеў мець ніякіх адносін да шляхты, а абапіраўся толькі на народ. Адносіны Літвы да Польшчы ён разумеў толькі як федэрацыйныя з поўнай незалежнасцю Літвы і Беларусі. Ён зусім не прызнаваў улады Варшаўскага Цэнтральнага камітэта і не хацеў адтуль прымаць ніякіх загадаў і прапаноў». Я. Гейштар, лідэр літоўска-беларускіх «белых», ідэйны праціўнік К. Каліноўскага і яго пераемнік на пасадзе старшыні Віленскага паўстанцкага цэнтра, успамінаў пра яго: «Гэта быў чалавек, душою і сэрцам адданы простаму люду і бацькаўшчыне, прасякнуты крайнімі тэорыямі, прыты літоўскі сепаратыст... Пры першым знаёмстве са мною ён даводзіў, што ўдзел шляхты і памешчыкаў у паўстанні не толькі не патрэбны, але і шкодны».**

**У выніку можам канстатаваць здзіўляючае адзінства ў характарыстыках К. Каліноўскага, што зыходзяць ад розных людзей, якія — і гэта трэба падкрасліць—не мелі ні ценю зацікаўленасці ў нейкай фальсіфікацыі, у дадзеным выпадку—у ператварэнні польскага патрыёта-нацыяналіста (паводле С. Агурскага, М. Міско і У. Казберука) у літоўска-беларускага «сепаратыста».**

І НАРЭШЦЕ — аб асвятленні ў «Мужыцкай праўдзе» пытання аб уніяцкай веры. Тут таксама нельга пагадзіцца з падыходам У. Казберука, паколькі ён скажае пазіцыю К. Каліноўскага, не ўлічвае абставінаў часу і агітацыйныя задачы выдання, імкненне Каліноўскага выкарыстаць усе сродкі і магчымасці для мабілізацыі беларускага сялянства на ўзброенае паўстанне супраць царызму. Зыходзячы з № 6 «Мужыцкай праўды», аўтар зрабіў наступную выснову: «Аказваецца, што адзінай верай, якую Каліноўскі дазваляе беларускаму мужыку вызнаваць, з'яўляецца уніяцкая». Выснова — неадэкватная тэксту крыніцы. Пафас гутаркі Каліноўскага ў дадзеным выпадку — не ў навязванні беларускім сялянам уніі як «адзіна правільнай веры», не ў аб'яўленні «схізмай» праваслаўя, а ў асуджэнні здрадніцтва «веры дзядоў і прадзедаў», якой для мільёнаў беларускіх сялян у другой палове XVII і ў XVIII ст. стала уніяцкая вера. Гэтага не заўважыў У. Казбярук і менавіта з гэтай прычыны яго палеміку з Каліноўскім па канфесійным пытанні нельга прызнаць карэктнай. І зусім недарэчы прыцягвае аўтар у артыкул сённяшнія падзеі ў Заходняй Украіне, звязаныя з барацьбой уніятаў за свае цэрквы, гвалтоўна адабраныя ў іх у 1946 г. і перададзеныя па ініцыятыве Сталіна ў ведамства патрыярха Рускай праваслаўнай царквы. Гэта зусім асобная, вельмі складаная праблема і нельга яе вырашаць так — з наскоку, як зрабіў У. Казбярук.

Увогуле асноўныя палажэнні артыкула «Маякі і міражы» не вытрымліваюць крытыкі. Аднак будзем спадзявацца, што яго публікацыя пасадзейнічае разгортванню навуковых дыскусій па вузлавых праблемах нацыянальнай гісторыі і культуры, а тым самым і нараджэнню ісціны. Час гэтага патрабуе. Час гэтаму спрыяе.

**ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ**

# КАМУСЬЦІ ГЭТА ЗАМІНАЛА...

**Праблемы мастацкага выхавання і асветніцтва абмяркоўваліся летась у шэрагу публікацый аддзела музыкі. Гаворку, распачатую чытачкай І. Пракапенкай («Збеднена ўсё наша грамадства...», нумар за 27.04.90г.), працягвалі на старонках «ЛіМа» А. Селачнік («Што ж здарылася з музычнай культурай?», 3.08.90 г.), У. Лябецкі («Чаго мы вартыя — без культуры?», 17.08.90г.), І. Мільто («Ці ёсць выйсце з лабірынта?», 23.11.90г.), Э. Пасынкава («А хто «пацягне воз»?», 7.12.90г.). Падтрымала размову і кандыдат педагагічных навук Г. Астахава, даслаўшы нам грунтоўны рукапіс, у якім падзялілася ўласнымі назіраннямі, высновамі, вопытам. Гэты артыкул мы падаём, са згоды аўтара, у скарочаным варыянце.**

СЯРОД ТЫХ ПЫТАННЯЎ, якія ў крытычныя моманты ставіла перад сабою наша грамадства, штосьці не помніцца, каб прысутнічала такое: «за што?» Тым не менш менавіта яно суправаджае наша жыццё ўжо доўгія дзесяцігоддзі.

За што гінуў працоўны люд? За што выкошвалі інтэлігенцыю? За што пазбаўлялі нас нашай гісторыі, культуры? За што гінулі помнікі — велічныя саборы старажытнасці і маленькія царкаўкі сельскіх прыходаў? «За што?» — задаваў сабе пытанне і асобны чалавек, які ўкладваў сваю душу ў справу, аднак быў пазбаўлены магчымасці на практыцы дасягнуць плёну.

Але вось, здаецца, прыйшоў час для ажыццяўлення спраў. Людзі так засумавалі па творчай, ствaральнай працы, што не жадаюць верыць у магчымую падманлівасць сітуацыі. Тым, хто супрацьстаяў гвалтоўнаму бяздушшу, хто шукаў выйсце з тых тупікоў, у якія траплялі сэм, куды траплялі цэлыя накірункі нашай дзейнасці,— тым адступаць няма куды і няма калі. Правa ажыццяўляць нашы планы ў нас ёсць, яно завявана нашымі пакутамі, нашымі болямі і — у ім, запатрабаваным часам, маюць патрэбу людзі. Грамадства. Дзеці. Бацькі. Радзіма.

Вось адна з канкрэтных спраў: пад'ём культуры людзей. Пагражальнае падзенне яе абавязвае неадкладна парурупіцца пра адраджэнне.

Не сакрэт, што многія з маладых не разумеюць сапраўдных твораў мастацтва. Асабліва гэта выяўляецца праз стаўленне да сур'ёзнай музыкі. Такая выснова красамоўна пацвярджаецца шматлікімі публікацыямі ў «ЛіМе». У прыватнасці, у артыкуле А. Селачніка за 03.08.90 г. «Што ж здарылася з музычнай культурай?» падкрэсліваецца: «Масавая глухата да цудоўнага, нязодольнасць успрымаць сапраўднае мастацтва апанавала ўжо некалькі пакаленняў...» Разам з тым, сцвярджае аўтар: «Нарэшце, мы ўсё больш разумеем, што мастацтву замены няма... У барацьбе за ідэі, за духоўнасць няма ў грамадстве лепшай зброі, чым мастацтва».

Цалкам падзяляючы думку аўтара і далучаючыся да шматлікіх трывожных, перасцерагальных ад поўнага духоўнага збядnення галасоў свой голас, прапаную адзін з магчымых варыянтаў выйсця з тупіковай сітуацыі.

**Шматгадовая педагагічная і даследчая дзейнасць дазволіла мне распрацаваць і апрабаваць некаторыя падыходы да праблемы музычнага і шырэй — мастацкага развіцця дзіцяці. Я сцвярджаю: ёсць рэальныя магчымасці паспяхова навучаць музыцы практычна ўсіх дзяцей, няма ніякага сумнення ў тым, што ў кожным дзіцяці ёсць іскра музычнасці, здатная ператварыцца ў полымя мастацкай творчасці. Тое, што многія дарослыя глухія да вялікага мастацтва, тое, што значная частка моладзі ператварылася ў рок-наркаманаў, лішні раз пацвярджае бязмерныя пралікі музычнай педагогікі. Я падзяляю пункт погляду тых вучоных, хто лічыць, што, развіўшы асобу дзіцяці, разам з ёю мы разаўём і яго здольнасці.**

**Удзельнічаючы ў рэспубліканскім эксперыменце па пачатковым навучанні шасцігадовых дзяцей у агульнаадукацыйнай школе, я сутыкнулася са звычайнай з'явай: у І-ым класе з 30 вучняў інтаніравалі самыя простыя мелодыі толькі 4—5. Не лепшай была справа з рытмічным адчуваннем, тэмбравым слыхам і г. д. Што рабіць? Няўжо спрэс перада мною няздольныя дзеці?**

**Памаглі цярпенне, уважлівасць, стварэнне ў класе мікраклімату даверу і — што абавязкова — уключэнне кожнага вучня ў пасільную музычную дзейнасць.**

**І якая ж была радасць, калі, сустрэўшыся са сваімі гадаванцамі пасля летніх канікул, я ў многіх, хто раней не інтаніраваў, пачула чыстае, выразнае спяванне! Па сутнасці, адбылася з'ява самаразвіцця, саманавучання, калі ў дзіцяці з'яўляецца пастаянная патрэба ў нечым — у дадзеным выпадку ў музыцы. Яна і падштурхнула спявацкае развіццё дзяцей.**

**Яшчэ больш высокімі былі вынікі работы з дзецьмі ў музычнай школе.**

Здавалася б, што ж тут асаблівага? Усе дзеці спяваюць, ведаюць песні... На жаль, ісціна выглядае іначай. Мне б давялося напісаць не адну старонку, пералічваючы, чаго 6—7-гадовыя дзеці, якія наведваюць дзіцячы сад, не могуць. Не могуць вылучыць хоць бы самыя яркія прыкметы марша, вальса; хоць бы ў самых агульных словах расказаць пра пачутую музыку; ацаніць выкананне песні таварышам (не кажучы ўжо пра ацэнку ўласнага выканання). На скажэнне мелодыі, рытму, цьмяны тэмбр голасу, манатоннае спяванне яны не зважаюць: толькі наведанне слоў — асудкжаюць. Зусім анекдатычны быў выпадак з хлопчыкам, якога я папрасіла ўспомніць, якія песні ён спяваў на музычных занятках. Напружваючы памяць і пакутуючы, ён адказаў: «А я ўчора і сёння не хадзіў у дзіцячы сад і таму не памятаю».

КАБ СФАРМІРАВАЦЬ гатоўнасць дзіцяці да навучання, трэба было пераглядзець усе наяўныя ў галіне падрыхтоўчага музычнага развіцця методыкі. Аналіз паказаў, што ўсе яны грунтуюцца на аптымізацыі працэсу навучання. Гэта так. Адно выклікае сумненне: эфектыўнасць навучання разглядаецца ў іх толькі праз прызму педагагічнага кіраўніцтва. Аднак відавочна, штоаднымі намаганнямі педагога вялікіх вынікаў у навучанні дамагчыся немагчыма, неабходна дасягнуць тых адносін з вучнем, якія пазней былі названы «педагогіка супрацоўніцтва».

Абапіраючыся на работы вядомых псіхолагаў і педагогаў і перш за ўсё на выяўленыя доктарам педагагічных навук Н. Вятлугінай так званыя «агульныя спосабы арыенціроўкі ў музычнай дзейнасці», я знайшла іншы варыянт, які адпавядае ўмовам навучання ў ДМШ. Услухоўванне і абследаванне; слыхавы кантроль і карэкціроўка спявацкіх інтанацый і рытму; творчае стаўленне да спеваў, ігры, танца; распазнаванне, выяўленне, разуменне, тлумачэнне, абазначэнне і ўжыванне вядомых музычных з'яў ва ўласнай практыцы і г. д.— той мінімум эмацыянальна - інтэлектуальных уменняў, які вызначае сустрэчны рух дзіцяці ў працэсе спазнання. Перажытая ім радасць творчасці зробіцца сур'ёзным штуршком ў выспяванні яго ўласных творчых сіл.

Што ж з'яўляецца вызначальным у музычна-мастацкім развіцці практычна кожнага дзіцяці?

Ва ўзросце ад 1 да 3 гадоў дзеці ўжо здольныя ўспрымаць творы мастацтва. Малое з задавальненнем слухае добрыя вершы — гука-рытмічны бок іх лепш за ўсё ўспрымаецца ім. Музыка, якая передае шматстайнасць пачуццяў, настрояў, таксама даступная дзіцяці. Неабходна толькі метадычна правільна падаць яе. Калі ж мы прапаноўваем нашым дашкольнікам вершы-сурагаты, нізкапробную музыку, што апраўдваецца нібыта ўзроставымі асаблівасцямі дзяцей, мы бясконца збядняем іх уяўленне, недадаём мастацкай, высокамаральнай інфармацыі, замаруджваючы гэтым развіццё вобразнага мыслення дзяцей, развіццё іх вышэйшых псіхічных функцый.

Ва ўзросце ад 3 да 7 гадоў закладваюцца асноўныя элементы эстэтычнай культуры дзіцяці. Да старэйшага школьнага ўзросту ў яго з'яўляецца жаданне перадаць словамі перажытыя пачуцці, падзяліцца ўражаннямі ад прыгожага, усвядомленае імкненне да паўторных сустрэч з творамі мастацтва, што спрыяе назапашванню эстэтычных уражанняў, а на іх падставе ўзнікае асабісты жыццёвы густ.

Думаю, патрабаванні да музыканта, які склаўся, да студэнта кансерваторыі, да пачаткоўца павінны быць ідэнтычныя. Бо грунтуюцца яны на агульнай падставе — асаблівасцях музычнага мастацтва і спецыфіцы музычнай дзейнасці. Неразуменне гэтага многімі педагогамі прыводзіць да буйных метадычных памылак і да страты цікавасці ў навучэнцаў.

**Адзначу, што распрацаваная методыка можа быць выкарыстана не толькі пры навучанні музыцы, але і ў якасці стымулявання агульнага развіцця мысліцельнай дзейнасці навучэнца ва ўмовах агульнаадукацыйных школ. Заўважаны і станоўчы ўплыў музычных заняткаў на здароўе дзяцей. У іх здымаліся агрэсіўныя імпульсы, у нейкай меры аднаўляўся дэфіцыт руху і фізічных нагрузак. У абедзвюх школах (музычнай і агульнаадукацыйнай) паспяховасць былых «падрыхтавішан» была вышэй, чым у іх аднакласнікаў.**

**Працэс развіцця закрануў не толькі асабліва таленавітых, прычым, займалася я з усімі жадаючымі дзецьмі з розных сацыяльных пластоў, з сем'яў так званых шчаслівых і не зусім. Стаўшы дарослымі, былыя мае вучні самі ацанілі ролю музычнага навучання ў іх развіцці як вырашальную.**

**Акрамя заняткаў з дзецьмі, я вяла таксама эксперыментальную работу па формах і метадах удасканалення прафесійнай падрыхтоўкі будучых выхавацеляў дзіцячага сада і настаўнікаў пачатковых класаў з дадатковай спецыяльнасцю «Музыка» для сельскай мясцовасці. У выніку ўзніклі арыгінальныя праграмы па курсе прапедэўтычнай методыкі музычнага выхавання, уласна методыкі, былі распрацаваны спецкурсы, спецсемінары. Выконваліся дыпломныя работы, якія атрымалі ў далейшым станоўчыя водгукі.**

І вось, калі эксперымент прыняў шырокі характар, калі пачалася з аднаго боку мэтанакіраваная падрыхтоўка творча мыслівага педагога, здольнага да далейшага самаўдасканалення, а з другога—многія прыгарады Мінска, якія дагэтуль маўчалі ў музычных адносінах, былі ахоплены музычна-эстэтычным выхаваннем (вёска Каралёў Стан, г. п. Калодзішчы, г. п. Гарадзішча), калі на базе абраных школ пачалі праводзіцца семінары для настаўнікаў пачатковых класаў Мінскага раёна, калі вопыт работы пачаў абагульняцца і прапагандавацца на рэспубліканскіх і ўсесаюзных навуковых канферэнцыях і семінарах, а таксама праз лекцыі ў інстытутах удасканалення настаўнікаў рэспублікі, калі пачаў фарміравацца калектыў аднадумцаў з ліку педагогаў кафедраў методыкі музычнага выхавання і педагогікі, настаўнікаў агульнаадукацыйных школ, калі бацькі вясковых дзяцей, паверыўшы ў іх здольнасці, сталі нашымі саюзнікамі і памочнікамі, калі мы разам будавалі самыя светлыя планы па арганізацыі жыцця дзяцей у музыцы,—выявілася, што ўся гэтая дзейнасць некаму перашкаджае...

У выніку з верасня 1986 г. праца спынена.

ЗРАЗУМЕЛА, няма прарока ў сваёй айчыне, ды і ніхто не прэтэндуе на гэтую ролю. Але як лёгка, як жорстка, як імгненна ўмее хтосьці разбураць па крупінках сабранае, вывучаемае, апрабаванае. Як умеюць, прыкрываючыся добрымі памкненнямі і дзейнічаючы ад імя народа, наносіць велізарны ўрон справе і канкрэтным людзям, дзесяткам, сотням канкрэтных людзей. Сапраўды — адным махам усё разбівалася.

Дык ці можам мы з гэтым мірыцца, па-ранейшаму абыякава ставіцца да таго, якія педагогі будуць вучыць і выхоўваць, даваць пуцёўку ў жыццё нашым дзецям!

**Галіна АСТАХАВА,**
**кандыдат педагагічных навук, загадчык эксперыментальнай лабараторыі РМК Міністэрства культуры БССР.**

# З НОВАЙ КНІГІ

**(Пачатак на стар. 8—9).**

Мы і тады былі пад пільным вокам, працавалі над кнігай ледзь не падпольна. Самі куплялі плёнку ў радыёкамітэце, з дазволу святлейшых адказных таварышаў, прычым менш светлыя, з іх гаспадарчых намеснікаў, старанна падсоўвалі нам плёнку горшую, не новую. Самі мы выпрацоўвалі маршруты, папярэдне дамаўляліся з мясцовымі ўладамі, зноў жа залежачы ад чалавечага ўзроўню паасобных кіраўнікоў, адны з якіх дапамагалі, другія недаўмявалі і не спяшаліся зразумець, навошта гэта патрэбна, а іншыя проста ігнаравалі такую пісьменніцкую цяганіну. У радыёкамітэце перапісаная для захавання плёнка значылася не за намі, не за мяркуемай кнігай, а за адным з супрацоўнікаў літаратурнай рэдакцыі. Наперадзе чакалі нас цяжкасці з друкаваннем. Службовыя асобы, якім было звычна дый дзеля кар'ернай надзейнасці выгадна перашкаджаць нам, рабілі гэта і тайна, і яўна, не чакаючы дабра ад літаратараў не надта пэўных і наогул, і з усёй гэтай іхняй «жертвенностью» і «абстрактным гуманизмом». Чыноўнікам ахвотна памагалі і некаторыя нашы «таварышы па пяру», стандартныя патрыёты.

Забягаючы наперад ад таго размагнічвання плёнкі, можна сказаць, што такі недавер, непадтрымка, патайныя і адкрытыя перашкоды ажывіліся на розных узроўнях і ў Мінску, і ў Маскве, калі мы пачалі публікаваць сваю працу спачатку ў часопісах, а потым кнігамі, у арыгінале і ў перакладзе на рускую мову.

Праўда, былі і такія, хто памагаў нам, асабліва ў канцы работы, што ўспамінаецца з удзячнасцю.

А тады, калі мы ў гасцініцы сціралі запіс расказу старое настаўніцы, у нас быў ужо пэўны вопыт цяжкасцей і небяспек, было і прадчуванне яшчэ большых, была асцярожнасць і перш за ўсё страх **за кнігу...**

Цяпер, такое, **можа,** і пайшло б у друк, з судовай справай у перспектыве (партрэты герояў могуць і абурацца!..), аднак, яго, як дакумента, няма —таго запісу пра яшчэ адну з «вогненных вёсак».

«Адным вокам...»

Такое бачанне ў нашай кнізе, пры ўсёй добрасумленнасці яе збірання і падрыхтоўкі, ёсць. Мне яно бачыцца і ў тым яшчэ, што мы, саўтары, «каб больш надзейна, пэўна прайшло», сям-там прыцiралі ў людскіх расказах тое, што гаварылася і пра характар партызанскай барацьбы, і пра хітрасці ворага.

— Немец ходзіць па вуліцы, сігарэтку пакурвае, а забіваюць свае, паліцаі, народнікі...

Такое чулася даволі часта і ўсюды, дзе мы пабывалі. Заграбанне жару чужымі рукамі, спрадвечнае «падзяляй і валодай», сляпое ўзаемнае знішчэнне нашымі людзьмі адныадных дзеля чужое мэты — у гэтым і хітрасць фашыстаў, і наша бяда. І такое ў сваёй кнізе нам трэба было самім «рэдагаваць», сугучна з умовамі часу...

А пра характар партызанскай вайны, якая ў многім была вайной грамадзянскай,— з усёй палітычнай, класавай, сваяцкай і проста варварскай складанасцю,— пра гэта наогул маўчалася.

Як і маўчыцца дагэтуль...

●

Праз год пасля таго, як гэта было напісана («ў стол»), мне пазваніў, прыехаўшы з Масквы, Алесь Адамовіч,— спытаўся, ці памятаю я прозвішча той настаўніцы з Віцебшчыны і таго камандзіра атрада, які расправіўся са сваімі. Думаў Алесь Міхайлавіч не толькі пра маю памятлівасць: у нашых колішніх падарожжах абавязкі былі падзелены так: ён, Адамовіч, з магнітафонам, Уладзімір Калеснік з фотаапаратам, а ў мяне блакнот.

Я сказаў, што не памятаю, бо і сапраўды не памятаў, таксама як і раней, улетку 1988-га, калі пісаў у вёсцы гэты ўспамін.

Ды тут ужо мне начало, як гаворыцца, і муляць. Не мог не думаць пра тое, пачаў шукаць хоць які-небудзь запіс. За некалькі дзесяцігоддзяў блакнотаў сабралася шмат, і я яшчэ раз удзячна ўсцешыўся, што не знішчаю іх пасля выкарыстання запісаў.

У блакноце за чэрвень 1972 года пачарнавому, па-дарожнаму, як разабрацца толькі самому, значыцца, што расказвала нам пра той жах настаўніца Вера Пятроўна Слабада, якой было 74 гады, у вёсцы Дубровы каля Асвеі. Пра камандзіраў яна, аказваецца, гаварыла двух: у мяне запісаны Калайджан і Блінаў. «Адзін зазлаваў і другі зазлаваў»,— такая са слоў жанчыны паметка, якую шырэй ажывіць у памяці не магу.

У кнізе «Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны» (Мінск, «Беларусь», 1983 г.) прозвішча абодвух камандзіраў значыцца.

Калайджан Ваграм Пагосавіч са жніўня 1942 года да жніўня 1943-га быў камандзірам атрада імя Фрунзе, заснаванага ў Асвейскім раёне «з удзельнікаў падпольных арганізацыяў — партыйна-камсамольскай у г. п. Асвея і камсамольскай у в. Прошкі».

Складаней з другім камандзірам, якога згадвае настаўніца. Блінавых у названым даведніку тры. Найбліжэй да месца расправы — Блінаў Дзмітрый Кузьміч, які камандаваў атрадам імя Кутузава, арганізаваным з жыхароў Полацкага раёна. Да студзеня 1943-га атрад называўся 6-ым атрадам 2-ой Беларускай брыгады імя Панамарэнкі. 4 сакавіка 1943 года ён вышаў з савецкі тыл і быў расфарміраваны.

# ГАРАДЫ І ЗОРКІ

## Батлейка на брэсцкай сцэне

Год таму Анатоль Ільіч Вярцінскі ніякавата казаў мне: «Ну як гэта я, рэдактар, змяшчу ў сваёй газеце рэцэнзію на спектакль па сваёй п'есе? Ды яшчэ рэцэнзію супрацоўніка... Ды яшчэ такую станоўчую...»

Анатоль Ільіч, выбраўшыся працаваць у Вярхоўны Савет БССР, развязаў мне рукі. На жаль, спектакля ўжо не было. Не было адметнай магілёўскай батлейкі «Рыгорка — ясная зорка», зробленай па п'есе А. Вярцінскага «Дзякуй, вялікі дзякуй». Алег Жугжда, аўтар вынаходлівага сцэнічнага ўвасаблення (пра якога хочацца напісаць прыгожа — узыходзячая зорка беларускай рэжысуры), з'ехаў з Магілёва, узяўшы з сабою, акрамя хатняга-астатняга, і задуму пра хлопчыка-зорку. З'ехаў, як высветлілася, ад... нястомнага змагання: з жабрацкім існаваннем тэатра, які ўсё ніяк не выслужыць свайго будынка, ад прыхамаці і жорсткасці адміністрацыі, якая самай трывалай тэатральнай традыцыяй лічыць арганізацыйнае «неразбяры-бяры»...

У Брэсцкім абласным лялечным тэатры Алег Жугжда нанова зрабіў спектакль «Рыгорка — ясная зорка», які, праўда, няможна назваць простым пераносам са сцэны на сцэну (як няможна магілёўскую батлейку «перарабіць» на брэсцкую). Спектакль — прыпавесць у стылі батлейкі. Прыпавесць пра тое, як з'явіўся добры Анёл у створаны свет і заспеў там першае гора дзеда і бабы,— загінулі іхнія дзеці; як узяўся Анёл свет створаны перастварацьна добры лад, вучыць міран цярпенню і ўдзячнасці, даўшы дзеду ды бабе сына Рыгорку...

Я нават не магу меркаваць, адкуль у Алега Жугжды такое вытанчанае адчуванне нацыянальнага ладу, адкуль дзіцячая прага цуду («Вось вам і цуд — свяціць трэба добра», — перамаўляўся рэжысёр на рэпетыцыі), адкуль несучасная тактоўнасць да драматургіі і павага да слова вымаўленага...

Спектакль пра хлопчыка-зорку, над якім шчыраваў мастак Валерый Рачкоўскі, існуе сёння ў двух варыянтах. Адзін умоўна назаву дзіцячым, другі — дарослым. У другім амаль няма тэкставых скарачэнняў і Анёл перастварае свет са словамі Свяшчэннага пісання на вуснах,— шматмернасць прыпавесці, яе любамудры сэнс цудоўным чынам праступае праз сюжэт, узяты самім драматургам з народных казак.

Спектакль нібыта перакідаецца ў дачыненні да батлейкавай традыцыі: кананічных персанажаў батлейкі іграюць жывым планам, разам з лялечным спектаклем разыгрываюць яшчэ адзін маленькі спектакль-пантаміму: Анёл то спрачаецца, то мірыцца з Чортам, Дзед шукае паразумення з Канём, Конь увесь час прыглядаецца і прымерваецца да Анёла і да Чорта (няўжо выбірае?), а Дзед прастадушна бярэ бок то аднаго, то другога... Гэткая своеасаблівая мадэль адзінства і тоеснасці супрацьлегласцей, якая мае на ўвазе адвечны парадак і размаітасць свету, дзе шмат чаму ёсць месца і шмат што мусіць суседзіцца са шмат чым іншым.

Лялькі кананічнай (традыцыйнай) батлейкі забаўляюць дзяцей сваімі пераўтварэннямі. З зоркі ўзнікае хлопчык — яго проста ў калысачцы Анёл апускае ў рукі бабе; імкліва мужнее Рыгорка — тры лялечкі, тры памеры, тры выразы драўлянага фарбаванага тварыка, ад дзіцячай засяроджанасці да дабраты асілка. На доўгім кіі «лётае» над батлейкавай канструкцыяй Змей-ліхадзей,ззяючы металічнымі фалангамі і міргаючы чырвонымі вачыма, а Гада — Змеевага брата ўвасабляе рука Чорта, адзетая ў чорную пальчатку з бліскаўкамі...

Гульня на сцэне распавядае пра згоду, удзячнасць і любоў, даводзячы, што менавіта з іхняю дапамогаю лепей уведаць, што, як і чаму: адкуль што пайшло і чаму так «стало есть». За гульнёй мроіцца ўсмешка Алега Жугжды, які пачаў сваю дзейнасць у Брэсце па-беларуску («Душа просіць...»).

Неўзабаве рэжысёр прадставіць беларускіх лялек у Мюнхенскім лялечным музеі (дзе традыцыйна ладзяцца паказы лепшых лялечных спектакляў свету), а брэсцкую лялечную сцэну тым часам апануе знакамітае гусяня Цім—пасля незайздроснага, аднастайнага і віскатлівага свайго шэсця па тэатральных пляцоўках яно, падобна, рыхтуецца да зорнае часіны — вучыцца маляваць карціны «ў стылі» імпрэсіяністаў і напявае ўжо з улюбёнага кампазітара Моцарта...

Жанна ЛАШКЕВІЧ.



Сцэна са спектакля.

Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.

БТ: РАЗАМ ЛЯ ТЭЛЕЭКРАНА

# ДА ЧАЛАВЕКА ДУХОЎНАГА

## Тэлеканал «Адраджэнне»

Па суботах Беларускае тэлебачанне ўзяло за добрую традыцыю збіраць ля экранаў усіх, хто цікавіцца гісторыяй Бацькаўшчыны. З пачатку года ў эфір выйшлі перадачы пра Я. Дылу, Б. Тарашкевіча, В. Ластоўскага, Я. Лёсіка... Адбылася і прэм'ера культурна-асветніцкага канала «Адраджэнне», створанага напрыканцы 1990 г. Галоўнай рэдакцыяй навукова-папулярных і навучальных праграм (вядучы — загадчык аддзела часопіса «Спадчына» Вячаслаў Ракіцкі).

Мяркуючы нават па некалькіх выпусках, можна казаць, што новы тэлеканал — адмысловае з'явішча на БТ. Уяўляецца, што адразу выбраны ўдалы тон — без слязлівай жалобы альбо агрэсіўнага праўдашукальніцтва. Падаецца, што словы біскупа Т. Кандрусевіча, якія прагучалі ў адной з перадач — «ісці да чалавека духоўнага, адраджаць духоўнае ў чалавеку», — з'яўляюцца творчым крэда стваральнікаў канала.

Выпуск, прысвечаны віленскаму перыяду беларускай гісторыі, пачаўся з кадраў святой імшы ў Катэдры на ўгодкі Скарыны. Галоўнай дзейнай асобай перадачы вядучы зрабіў менавіта асобу: мы пачулі словы а. У. Чарняўскага і мастака А. Марачкіна. Звязаўшы мінулае і сучаснае вытрымкамі з «Геаграфіі Беларусі» А. Смоліча, стваральнікі перадачы правялі нас па гістарычных мясцінах Вільні. У гэтым ім дапамагаў Лявон Луцкевіч, а ягоныя ўспаміны дапоўніў грунтоўны аповяд публіцыста і гісторыка А. Сідарэвіча.

Больш чым гадзіну эфіру аўтары насыцілі інфармацыяй: вядучы даў магчымасць выказацца субяседнікам, так бы мовіць, без аглядкі на «ўнутранага цэнзара»... Абнадзейвае сцвярджэнне В. Ракіцкага, што наперадзе — працяг тэм, бо тэлеканал у адрозненне ад прэсы здольны сінтэзаваць самыя разнастайныя матэрыялы па гісторыі Беларусі. Хацелася б бачыць больш хронікі, фотадакументаў. Творчыя магчымасці рэжысёра канала Д. Качатковай і рэдактара М. Самуйлёнак дазваляюць спадзявацца, што ў далейшым будзе створаны больш багаты відэарад.

Дарэчы, у суботу, 23 лютага, у эфір выйдзе пяты выпуск тэлеканала «Адраджэнне». Ён прысвячаецца Янку Купалу, малавядомым старонкам біяграфіі паэта.

Юрась ЗАЛОСКА.

НАПЯРЭДАДНІ ПРЭМ'ЕРЫ

# НА МОВЕ АРЫГІНАЛА

**У Вялікім тэатры БССР рыхтуецца новая пастаноўка оперы Д. Пучыні «Тоска».**

Гэтай падзеі было прысвечана чарговае пасяджэнне Клуба сяброў оперы. «На Захадзе, — гаварыў госць Клуба, музычны кіраўнік і дырыжор пастаноўкі Ю. Кочнеў, — дзе міждзяржаўныя сувязі заўжды былі вельмі развітыя, дзе людзі, як правіла, ведаюць мовы 2—3 суседніх краін, оперы ідуць на мове арыгінала, у тым ліку і руская оперная класіка гучыць па-руску. У нас жа апошнім часам не так і многа прыкладаў, калі опера ставіцца на мове арыгінала. Звычайна заходняя класіка ідзе ў прыблізных, трывіяльных перакладах на рускую, і гэта зніжае сілу ўздзеяння на слухача...»

Так, беларуская трупа адважылася на эксперымент: «Тоска» загучыць па-італьянску. Ці паўплывае гэта на цікавасць публікі — час пакажа. Ва ўсякім разе італьянская мова не замінала захапленню наведнікаў Клуба, калі тыя слухалі ўрыўкі з «Тоскі» ў выкананні салістаў Н. Залатаровай, В. Кавальчука, зусім яшчэ маладых вакалістаў І. Журко і А. Тузлукова, а таксама выхаванца дзіцячай опернай студыі Жэні Окунева (канцэртмайстар К. Суворава). У галоўных партыях заняты таксама Н. Губская, У. Экнадзіёсаў, В. Стральчэня, І. Шупеніч, М. Маісеенка, Ю. Бастрыкаў.

Новую пастаноўку «Тоскі» ажыццяўляюць рэжысёр М. Ізворска-Елізар'ева, сцэнограф В. Окунеў. 28 лютага — прэм'ера. Хай жа яна наблізіцца да арыгінала не толькі італьянскай мовай, а і сілай неўміручых чалавечых пачуццяў...

С. ВЕТКА.

У маім блакноце, апроч старое настаўніцы, запісаны яшчэ два чалавекі. З тых адзіных, што ацалелі ад расправы. З адным, Цімафеем Змітравічам Анісімавым, 73 гады, мы гаварылі раней, чым з настаўніцай, ад расказу яго ў мяне—толькі сказ: «Хто тут застаўся, таго няма, хто не паехаў у лес, як загадалі тыя партызаны». Другое прозвішча дала нам Вера Пятроўна,— Рыгор Васільевіч Шчасны. І тут ужо сказ, пачуты ад настаўніцы: «У себежскай турме дзеці самі сабе з голаду ручкі пааб'ядалі...» А Шчаснага ў вёсцы мы не засталі.

Калі для пошукаў, для даследавання, дык вось і ўсё. Больш было ў размагнічанай стужцы...

З тым Чырліным, што «хацеў закалоць» Вольгу Мініч, справа прасцейшая. І па часе, і па месцы дзеяння ўсё супадае. Чырлін Эдзіт Янкелевіч у лютым — верасні 1942 года камандаваў атрадам «Чырвоны Кастрычнік» на Рудабельшчыне. Прасцей справа выглядае тут і таму яшчэ, што Чырлін — як ні страшна было Вользе Мініч, калі яна сустрэлася з ім на сваім пакутніцкім шляху другі раз, і як ні крыўдна, калі ўспамінала тую сустрэчу праз дваццаць дзевяць гадоў,— Чырлін усё-такі не забіў яе, а даў двух праважатых, каб завезлі ў больш бяспечнае месца. Тут ужо двайная скідка: на вельмі крутую сітуацыю, у якой быў атрад, і шырэй — на **той час**, калі пра шпіёнаў, шпіёнства думалася перш за ўсё... Ва ўсякім выпадку справа з ім, Чырліным, непадсудная юрыдычна.

А што цяпер думаць пра тых двух, Калайджана і Блінава, пра тую ажно неверагодную вар'яцкую акцыю?

Запісанага ў блакноце вельмі мала. Сведкаў тых, хутчэй за ўсё, ужо няма: адной, каб яшчэ жыла, 92, другому, з кім мы гаварылі, на год меней. Дзе шукаць трэцяга, якога мы не бачылі і не ўведалі, куды стары падзеўся? Дзе тыя камандзіры, ці жывуць яшчэ?..

Словам — і цяжка брацца за гэта, і, шчыра кажучы, чамусьці зусім не хочацца. І не таму, што лянуюся ці баюся...

Аднак я пачаў.

У архіве музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, калі я назваў перш за ўсё прозвішча Калайджана, прыязнаруплівая супрацоўніца сказала, што гэтым чалавекам год ці паўтара таму назад «ізноў цікавіліся». У картатэцы на яго анкетцы значыцца: «Адмоўная даведка тав. Захарава». У асабістым архіве камандзіра Асвейскай брыгады імя Фрунзе, Героя Савецкага Саюза Івана Кузьміча Захарава, які памёр ужо даўнавата, сярод іншых матэрыялаў захоўваецца напісаная ім уласнаручна, на двух лістах паперы даведка, адрасаваная кудысьці вышэй музея.

Улетку 1942 года, піша камбрыг Захараў, у іх не хапала вопытных камандзіраў, і з-за лініі фронту, «ад Беларускага штаба партызанскага руху», некалькі іх у пачатку жніўня прыслалі. У тым ліку — старшага лейтэнанта Ваграма Пагосавіча Калайджана. Спачатку ён спраўляўся добра, нават да ўзнагароды быў прадстаўлены, а пасля (тут цытую даслоўна):

«Разведкой при помощи партизан были вскрыты крупные недостатки, из которых самым страшным в наших условиях были необузданное самолюбие и властолюбие... Самолично давал распоряжения о расстрелах».

Так па яго загаду ў адным з баёў хтосьці не названы ў даведцы «пристрачил» начальніка штаба атрада, нібы «за трусость»; потым быў расстраляны начальнік паліцыі, які перайшоў да партызан і прасіў адправіць яго на Вялікую зямлю. «Имело место и других фактов», піша таварыш Захараў. І выходзіць на наша асноўнае:

**«Во время карательной фашистской экспедиции в марте 1943 года, скрывающих(ся) 9 семей с маленькими ребятишками из дер. Дубровы в лесу, под видом полицейских также по его приказу были расстреляны. (Как потом выяснилось, никакие оне полицейские, местные жители.)».**

Паколькі Калайджан быў прысланы Беларускім штабам партызанскага руху—туды яго і адаслалі ўвосень 1943 года, разам з матэрыяламі пра яго «недостатки».

«Также мне потом не было известно,— піша камбрыг,— какое решение в Штабе ПДБ было принято. (Только слухом пользовался, што он к штрафникам был отправлен.) После войны одно его письмо из гор. Казани в/ч 33881 «М» получено, в котором об этом ничего не писал, а только обижался и спрашивал награждения».

Даведка І. К. Захарава напісана была 3 мая 1971 года.

Такім чынам, наш магнітафонны запіс, зроблены ў вёсцы Дубровы 7 чэрвеня 1972 года, не быў бы першаадкрыццём,— злачынствам Калайджана, калі меркаваць па камбрыгавай даведцы, заняліся значна раней. Ці знайшлі яго, ці судзілі, ці жывы ён яшчэ, ці памёр — ні ў музеі гісторыі ВАВ, ні ў інстытуце гісторыі КПБ нічога не вядома. У семдзесят другім годзе мы бачылі ў Віцебскім музеі партрэт гэтага «ўладалюбца», а ў 1976 годзе ён быў па загаду з Мінска зняты.

Яшчэ менш можна сказаць пра Блінава. Камбрыг Захараў у сваёй даведцы не называе яго, у музейным архіве ён наогул не значыцца. Можна меркаваць, што Блінаў Д. К., атрад якога 4 сакавіка 1943 года, як напісана ў кнізе «Партизанские формирования Белоруссии...», выйшаў у савецкі тыл і быў расфарміраваны, да злачынства ў Дубровах адносін не мае. Там, дзе, як гаварыла настаўніца, «і адзін зазлаваў, і другі зазлаваў», мог быць і нейкі іншы Блінаў...

Такому «юрысту», як я, больш нічога даведацца не ўдалося.

Застаецца адно.

Недзе ж там, на маляўніча-азёрнай Асвейшчыне або і недзе далей ці бліжэй, куды каго доля занесла, хтосьці з таго мясцовага атрада, якім камандаваў злавесны старшы лейтэнант, хтосьці — дый, можа, не адзін — яшчэ жыве, маўчыць пра **тое** выкананне загаду, глушыць гарай жахлівы ўспамін або вар'яцее пры яго новым ды новым прыступе...

1988—1990

# ПАЖАДАЕМ ЯМУ ПЛЁНУ!





«Шэкспір».



«Дрэвы без лісцяў» (з серыі «Беларускія будні»).



«Чарнобыльская зона».



«Льны Браслаўшчыны».

**Вядомаму беларускаму мастаку-графіку Георгію Паплаўскаму споўнілася 60 год. Больш як 30 з іх аддадзены мастацтву. Толькі пералік твораў, якія па праву лічацца класікай беларускага савецкага мастацтва, займае амаль цэлую старонку ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі». Ягоныя станковыя аркушы і кніжныя ілюстрацыі адзначаны прэстыжнымі прэміямі. Час ад часу мастак адкладае ўбок афортную іглу ці літаграфскі алоўак і бярэ пэндзаль. Мяркуючы па ягоных жывапісных творах, калі б Георгій Георгіевіч аддаваў гэтай справе столькі ж увагі і часу, як графіцы, дык ягонае імя, напэўна, стаяла б у шэрагу лепшых жывапісцаў Беларусі. Яно і не дзіўна: калі чалавек таленавіты, дык талент яго праяўляецца ва ўсім, што б ён ні рабіў.**

**У 60-я гады Паплаўскі — адзін з безумоўных лідэраў беларускага выяўленчага мастацтва. Тады наша графіка становіцца шырока вядомай у краіне, яе поспехі нават выклікаюць рэўнасць у мастакоў Балтыі і Масквы, што дагэтуль лічыліся лідэрамі і заканадаўцамі ў гэтай галіне. Ды і за межамі СССР з беларускім мастацтвам пазнаёміліся найперш праз творчасць графікаў — Кашкурэвіча, Паплаўскага, Заборава.**

**60-я гады... Адліга, «суровы стыль», адыход ад стэрэатыпаў у палітыцы, культуры, ды і проста на побытавым узроўні. Мы, відаць, неаднойчы вернемся да ўспамінаў аб тым часе, асабліва ў такія пераломныя моманты нашай гісторыі, як сённяшні... Адзін мастак можа больш ці менш аб'ектыўна адлюстраваць сучасныя рэаліі, другому ж, у адпаведнасці з маштабам таленту, дадзена адлюстраваць Час.**

**Георгій Паплаўскі не ставіць сабе мэтай абавязкова быць сучасным. Пра яго не скажаш, што ён бяздумна падпарадкоўваецца зменлівай модзе, новым стылістычным павевам. Хутчэй наадварот — ён імкнецца захаваць праз свае творы фундаментальныя каштоўнасці чалавечага быцця ў пераменлівым свеце. Пажадаем жа яму плёну!**

**В. БОГУШ.**

# ПА ТОЙ БОК «КРЭСАЎ»

**(Пачатак на стар. 4).**

юць багата знаёмых у Польшчы сярод ксяндзоў ды іншых, занятых «праблематыкай крэсовай». Лідэры беларускіх палякаў вельмі часта бываюць у Польшчы. Сярод іх ёсць вельмі папулярныя, вядомыя сваёй патрыятычнай працай на «крэсах», як напрыклад, ксёндз Казімір Свёнтак з Пінска. Такіх дзеячаў можна ўбачыць на польскім тэлебачанні, прачытаць аб іх дзейнасці ў польскіх газетах. Гэтыя дзеячы звычайна настроены вельмі варожа ў адносінах да ўсяго беларускага.

## Канцэпцыі

Беларусь у шматлікіх польскіх публікацыях аб «крэсах» займае асобае месца. Гэта тлумачыцца тым, што яна з'яўляецца «слабым звяном» на «крэсах» у параўнанні з Украінай і Літвой, а таму і займае асобае месца ў стратэгічных планах палякаў.

На іх думку, пры распадзе Савецкага Саюза Украіна безумоўна стане незалежнай дзяржавай. Яе моцны эканамічны патэнцыял, 50-мільённы народ і традыцыйная варожасць да палякаў будуць сур'ёзнай пагрозай для Польшчы, а таму на вяртанне Львова, як бы таго ні хацелася, нават і разлічваць дарэмна.

Што тычыцца Літвы, дык польскія дзеячы таксама ведаюць аб высокай нацыянальнай свядомасці літоўцаў ды безумоўнай гатоўнасці іх любымі сродкамі абараніць Вільню. Таму ў Вільні адзінае, на што можна спадзявацца,— гэта падтрымліваць там польскі «агеньчык», не выстаўляючы асаблівых прэтэнзій.

Іншая справа — Беларусь. На думку адных, на Беларусі няма сіл, якія былі б здольныя пабудаваць самастойную дзяржаву. Беларусы як нацыя — утварэнне вельмі штучнае і слабое. Яны заўжды падпарадкоўваліся мацнейшым — расейскім камуністам або нямецкім фашыстам — і, будучы заўжды ворагамі палякаў, з дапамогай першых і другіх вынішчалі палякаў. Але гэта маленькая купка людзей, якія не маюць падтрымкі ў цалкам аморфнай і некультурнай масе. Да таго ж, на думку польскіх даследчыкаў, на Беларусі жыве як мінімум 2,5 мільёна палякаў. Праўда, з трохі замутнёнай нацыянальнай свядомасцю, бо доўгія гады на Беларусі зусім не было польскай інтэлігенцыі, якую вымардавалі рознага кшталту ворагі. Вялікая місія Польшчы зараз — гэта дапамагчы сваім братам за ўсходняй мяжой стаць нарэшце палякамі, а з часам (ёсць надзея, што Савецкі Саюз разваліцца) і ўз'яднацца з маці-Польшчаю. Польскія палітыкі разлічваюць, што гэта будзе зроблена без асаблівых турбот, бо супрацьстаяць гэтаму на Беларусі няма каму. Па-рознаму вызначаюцца будучыя межы, некаторымі — да Смаленска.

Існуе і другая канцэпцыя, паводле якой ніякіх беларусаў няма ўвогуле, і Беларусь можна разглядаць як толькі паняцце геаграфічнае, а беларусаў — як этнаграфічны матэрыял, які ніяк не можа дэфармавацца і стацца палякамі або расейцамі. Тут, як палякі кажуць, двум вялікім народам — польскаму і расейскаму — трэба проста падзяліць гэтыя землі ды тым самым аднавіць на гэтых землях натуральны ход гісторыі і нармальныя суседскія ўзаемадачыненні. Гэты план вельмі нагадвае варыянт Рыжскай мірнай умовы 1921 года. З такім планам, дарэчы, некаторыя слухачы курсаў былі азнаёмлены пад час ужо згаданай сустрэчы ў ратушы Беластока.

На заканчэнне можна сказаць, што ў Польшчы зараз выходзіць вялікая колькасць кніжак, часопісаў, іншай літаратуры, прысвечанай Беларусі. Уважліва вывучаюцца розныя бакі яе жыцця.

## Дзейнасць

Дзяржавай у дзяржаве называюць у Польшчы каталіцкі касцёл. На сённяшні дзень ён сутыкнуўся з праблемай, калі парафіі стаяць адна ад другой настолькі шчыльна, што паміж імі пачынаецца канкурэнцыя за вернікаў, а ксяндзоў такая вялікая колькасць, што многія застаюцца без працы. Выйсце польскі клер бачыць адно — пашырацца за межы Польшчы, развіваць місіянерскую працу. Да таго ж, польскі касцёл моцна палітызаваны. Доўгі час яго ворагам былі камуністы. Цяпер іх няма, але застаецца баявы дух касцёла і вобраз ворага; без барацьбы з кімсьці польскі касцёл не можа існаваць. Што датычыць праблемы «ўсходніх крэсаў», то тут унутраная стратэгія касцёла, традыцыйна вельмі нацыяналістычнага, змыкаецца з нацыяналістычнымі настроямі польскага грамадства. Ксяндзы едуць на Беларусь не так з місіяй веры, як амбасадоры польскасці, як памагатыя ў ажыццяўленні амбіцый мясцовых дзеячаў кшталту Дабрыніна.

Ёсць пэўныя эканамічныя прычыны польскай культурнай экспансіі на Беларусь. Пагроза беспрацоўя таксама можа падштурхнуць настаўнікаў польскай мовы, работнікаў культуры шукаць сабе працу на «крэсах».

Вялікая колькасць публіцыстаў, журналістаў, гісторыкаў і г. д. фарміруе грамадскую думку, стварае праблему «крэсаў», і прычынай таму не толькі шавіністычныя настроі, але й чыста палітычны інтарэс; пасля падзення камуністаў трэба новая праблема, якая б прыцягвала ўвагу шырокіх колаў насельніцтва, гуртавала народ вакол касцёла і ўлады. Былыя асаднікі, ветэраны АК ды проста польскія нацыяналісты ствараюць розныя фонды й арганізацыі, якія займаюцца «крэсамі». Улічваючы, што шмат хто з гэтых людзей быў у апазіцыі да камуністаў, ясна, што яны маюць уплыў на польскі ўрад ды дзейнічаюць пры яго згодзе.

Спецыяльна «крэсамі» ды працай там займаецца Таварыства прыяцеляў Вільні і Гародні, якое мае свой друкаваны орган «Гонец крэсовы», а таксама іншыя выданні. Ёсць звесткі, што нядаўна паўстала Таварыства аматараў Беларусі. Аб тым, што іх ідэі ў польскім грамадстве сустракаюцца з прыхільнасцю, сведчаць дэманстрацыі, якія адбыліся ўлетку ў Варшаве і Гданьску з удзелам тысячаў людзей (у тым ліку моладзі) з лозунгамі аб далучэнні «крэсаў» да Польшчы.

З часам польская экспансія можа даць на Беларусі свае парасткі. Ужо зараз рыхтуюцца кадры будучых дзеячаў з моладзі, якая атрымала стыпендыі ў польскіх універсітэтах. Працягваецца наплыў ксяндзоў на Беларусь. Яны адкрыта кажуць вернікам: «Ваша ўлада — у Польшчы».

Савецкае пасольства ў Польшчы, якое, натуральна, інфармавана аб антыбеларускіх настроях ды акцыях, чамусьці ніяк на тое не рэагуе. Зрэдку ў савецкім друку пішацца аб «антырасейскіх» настроях у Польшчы, хаця найперш прапаганда ідзе антыбеларуская. Не заўважыць яе нельга — яна відавочная, варта толькі пачытаць газеты, паслухаць радыё і г. д.

Напэўна, сачыць за падзеямі і збіраць інфармацыю магло б консульства Беларусі ў Варшаве, калі б яно было арганізавана.

Так ці інакш, але відавочна адно: беларусы павінны дзейнічаць, не маўчаць.

**Юрась ЗАКРЭЎСКІ.**

# ВЯРТАННЕ ДА ЧЫТАЧОЎ,

## або Яшчэ раз пра Цётку і яе эпоху

**Сто пятнаццаць гадоў назад у сям'і шляхціца з Лідскага павета Сцяпана Пашкевіча нарадзілася дачка Алаіза, будучая беларуская паэтэса-рэвалюцыянерка Цётка. Пражыўшы на свеце 40 гадоў, сястра міласэрнасці Алаіза Пашкевіч згарэла ў тыфознай гарачцы пад дахам роднае хаты. Быў люты 1916 года, а значыць, 75 гадоў назад наш народ назаўсёды развітаўся з адной са сваіх самых таленавітых, самаахвярных дачок.**

**Вось чаму гэты год для мяне, ды, мяркую, і для ўсёй нашай літаратурнай грамадскасці будзе асветлены славай Пашкевічанкі-Цёткі.**

**Прызнаюся, заўжды з унутраным хваляваннем я імкнуся дазнацца як мага болей пра таго, чыё імя неадлучна ад лёсу нашай славутай паэтэсы-рэвалюцыянеркі, каго яна пакахала, побач з кім нямала пражыла гадоў. Гэта — Сцяпонас Кайрыс.**

**У літоўскіх энцыклапедычных выданнях засведчана, што Сцяпонас Кайрыс стала ўвайшоў у гісторыю развіцця літоўскіх палітычных і навукова-асветніцкіх рухаў.**

**Інжынер-тэхнолаг. Публіцыст. Прафесар.**

**Пасля заканчэння Шаўляйскай гімназіі ў 1898 годзе паступіў у Пецярбургскі Тэхналагічны інстытут. За ўдзел у студэнцкіх хваляваннях быў двойчы выключаны з інстытута (у 1899 і ў 1901 гадах). Акрамя таго, у 1904 — 1907 гг. (пара збліжэння з Алаізай Пашкевіч) удзельнічаў у рабоце Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі і, перапыніўшы вучобу ў інстытуце, у 1907 г. удзельнічаў у выбарнай кампаніі ў II Дзяржаўную Думу.**

**Пасля заканчэння Тэхналагічнага інстытута восенню 1908 года разам з Пятрасам Вілейшысам паехаў у Самарскую губерню будаваць масты для чыгункі Волга—Бугульма.**

**Затым, у Вільні, працаваў як публіцыст пры выданнях сацыял-дэмакратычнай партыі.**

**З 1912-га па 1916 год працаваў у Віленскай самаўправе, якраз пасля сваёй жаніцьбы на Алаізе Пашкевіч. З-за канфліктаў з нямецкім акупацыйным апаратам цалкам перайшоў на палітычную работу.**

**У чэрвені 1916 года ўдзельнічаў у канферэнцыі літоўскіх палітычных дзеячаў у Лазане.**

**Грамадска- палітычны шлях С. Кайрыса ўвогуле быў даволі складаны і супярэчлівы. Ён заўсёды быў у гушчыні падзей і заўсёды ў адносінах да гэтых падзей меў уласнае меркаванне.**

**Прыкладна з 1923 года С. Кайрыс становіцца прыват-дацэнтам тэхналагічнага факультэта Літоўскага універсітэта, затым — яго прафесарам. У 1940 годзе за кіраўніцтва санітарнымі збудаваннямі ў Літве С. Кайрысу была прысуджана ступень ганаровага доктара.**

**Найбольш С. Кайрыс вядомы як актыўны дзеяч Літоўскай сацыял-дэмакратыі. Пастаянны член ЦК партыі. Большую частку адозваў і пракламацый сацыял-дэмакратычнай партыі таго часу пісаў менавіта ён, С. Кайрыс. У гэты рэвалюцыйны выбуховы час яго літаратурна - публіцыстычны талент яшчэ болей узмужнеў і развінуўся. Пад псеўданімам Мучыс выходзіць брашура С. Кайрыса «Старым канонікам і прэлатам, ксяндзам і маладым вікарыям» — своеасаблівы адказ ксяндзам, якія выступалі супраць сацыялістычнага руху. Такі быў час, такі быў уздым духу!**

**У 1905 годзе С. Кайрысам былі напісаны новыя творы: «Вока за вока, зуб за зуб», «Памяці забітага ўрадніка Матуляўцкаса», а таксама тэхналагічныя падручнікі — пад псеўданімам Дзядзька. Ці не знамянальна, што менавіта ён, Дзядзька, стаў самым блізкім чалавекам Алаізы Пашкевічанкі?**

**Наколькі шырокім было кола інтарэсаў С. Кайрыса, сведчаць такія ягоныя працы, як «Японія раней і цяпер» (1906г.), «Канстытуцыя японцаў» (1906г.), «Чаму знікла прыгоннае права ў Літве» (1908г.). Асабліва распаўсюджана ў вёсках было адціснутае гектаграфічным спосабам апавяданне. С. Кайрыса «Пакінуты воранам». Міжволі згадваецца, наколькі папулярнымі ў тыя ж гады былі лістоўкі з вершамі Цёткі.**

**Пад час першай сусветнай вайны, якраз у гады сумеснага жыцця з Цёткаю ў Вільні, С. Кайрыс рэдагуе газету «Барбінінку Балсас» («Рабочы голас»). Вядомы ён і як аўтар кнігі фельетонаў «Казкі» (1920 г.), а таксама праекта новай праграмы ЛСДРП, якая была прынята на з'ездзе партыі ў Каўнасе ў 1932 годзе.**

**Як бачым, амаль усе гады найбольш актыўнага грамадска - дзейснага і творчага жыцця Алаізы Пашкевіч, асабліва ў Віленскі перыяд, побач з ёю быў менавіта ён — Сцяпонас Кайрыс. Таму ўспаміны гэтага чалавека ўяўляюць асаблівы інтарэс для нас. Найперш таму, што яны не толькі дакумент свайго часу, але і голас душы чалавека, які лепей за іншых ведаў нашу Цётку.**

**Таму варта паслухаць яго. Для многіх гэта будзе першае поўнае прачытанне матэрыялу, вядомага толькі беларускай эміграцыі.**

**Валянціна КОУТУН.**

Стэпонас **КАЙРЫС**

# З маіх успамінаў пра Цётку

**З маіх успамінаў пра Цётку**

АЛЕЙЗУ Пашкевічанку-Цётку (Цёткаю Алёйзу Пашкевічанку назвалі ейныя суседзі Іваноўскія) пазнаў я недзе ў 1902 годзе, калі быў студэнтам-тэхнолагам трэцяга курсу. Пазнаёміліся мы ў Пецярбургу. Пасля сканчэння прыватнай гімназіі Прозаравай у Вільні Алёйза Пашкевічанка запісалася на вышэйшыя педагагічныя курсы прафэсара Лесгафта ў Пецярбургу й адразу трапіла ў самы вір усёмацнеючага рэвалюцыйнага руху акадэмічнай моладзі. Студэнцкія страйкі, дэманстрацыі, крывавыя экзекуцыі, арышты, ссыльныя канвоі — усё часцейшымі нарастаючымі сутаргамі сатрасалі жыццё вышэйшых колаў Расеі. Студэнцтва было тады пульсам царскае імперыі, пульсам, што пачынаў біцца ўсё мацней і бескантрольней. Студэнцкаму рэвалюцыйнаму руху, што ахапляў розныя ідэялагічныя плыні з розных нацыянальных групаў, было супольным адно: змаганне з манархічным царскім рэжымам. Паасобныя нацыянальныя групы лучылі з гэтым і свае спецыфічныя заданні.

Л. ШЧАМЯЛЁЎ. Цётка.

У асяроддзі вось гэтай усё больш распальванай моладзі Алёйза Пашкевічанка пачулася адразу «як у сябе дома». Вельмі чуйкая на падзеі, выбуховага характару, не церпячы аніякіх кампрамісаў ані ў сабе, ані ў іншых, адкідаючы ды высмейваючы ўсякія канвэнансавыя формы ў дачыненнях, — яна ўважала за сабой абавязак і гонар быць усюды там, дзе так ці гэтак выяўляўся нарастаючы супроць існуючага стану настрой. Яна наведвала сходкі, брала ўдзел у дэманстрацыях, рупілася пра арыштаваных сяброў. Адразу самавызначылася Беларускай і гэткаю засталася назаўсёды.

Алёйза Пашкевічанка, якая нарадзілася й вырасла ў Старым Двары Васіліскай воласці Лідскага павету Віленшчыны на бацькавай гаспадарцы блізу ў 100 гектараў (апрача гэтае гаспадаркі стары Пашкевіч меў яшчэ «пустошу» Пяшчыну, 200 га велічыні, якую аддаваў у арэнду сялянам), у тагачасным Пецярбургу знайшла й сціплае сваё нацыянальнае асяроддзе. На Тэхналагічным інстытуце студыяваў тады ўжо Вацлаў Іваноўскі, Цётчын сусед з двара Лябёдка, а ў пазнейшыя гады й ейны даўгагодны супрацоўнік. На той жа Тэхналагічны інстытут запісаўся й вілянчук Пранцішак Умястоўскі, таксама беларус. Прыроднік Тодар Іваноўскі, брат Вацлава, ужо тады выразна хінуўся ў лятувіскі бок, а найстарэйшы з Іваноўскіх, тэхнолаг-хімік Юры, уважаў сябе за паляка. З блізкіх Цёткі-Пашкевічанкі прыяцеляў прыпамінаю Сабіну Ячынаўскую, якая пасля выйшла замуж за Вацлава Іваноўскага. Беларусаў-студэнтаў было тады ў Пецярбургу вельмі мала.

З Алёйзай Пашкевічанкай пазнаёміў мяне Тодар Іваноўскі, цяперашні прафэсар прыродаведных навукаў на Віленскім універсітэце, якому я тады памагаў засвойваць лятувіскую мову. Незвычайна жывога характару, нештодзённая, яна выразнялася нават і ў шматкалёрным студэнцкім асяроддзі ды адразу зрабіла на мяне ўражанне «чалавека з жывой душой». Па-свайму блізілі нас Цётчыны апавяданні з дзён ейнага маленства, калі яна, яшчэ малою дзяўчынкаю, ездзіла з бацькам у Ночу прадаваць лён. Тамака яна першы раз пачула й лятувіскую гутарку. Жартам нас, Лятувісаў, называлі «гіргунамі». Ці й у Цётчыных жылах не было нейкай крыху «гіргунскай» крыві — мне не ўдалося выясніць. Аднак Пашкевічаў у Летуве — колькі хаця. З першых студэнцкіх гадоў засталося ў мяне няшмат супольных успамінаў. Былі мы маладымі. Жылі пачуццём, умелі размахнуцца, будучыні не палохаліся. Летувісаў-студэнтаў на высокіх школах Пецярбургу было тады каля 30—40 чалавек. Сярод іх ужо зазначылася ідэялагічная дыферэнцыяцыя, і абсалютная большасць студэнтаў хінулася да Лятувіскай сацыял-дэмакратычнай партыі. Частка з іх гарнулася дзейна да партыйнай працы, рыхтавала партыйную літаратуру й збірала грошы на выданне яе. Ці рабілася тады нешта й сярод студэнтаў-Беларусоў, цяпер не памятаю. З Алёйзаю Пашкевічанкай сустракаўся тады даволі рэдка. Ці яна й тады спробавала ўжо нешта пісаць — цяжка мне сказаць.

Жыццё як лятувіскай, гэтак і беларускай акадэмічнай моладзі было тады вельмі цесна звязанае з Вільняю. З прычыны студэнцкіх страйкаў школы зачынялі, і мы ехалі «дамоў» весці далей рэвалюцыйную працу ўжо на сваіх палетках. Частка лятувіскіх студэнтаў ужо ад 1900 году пераняла ад сасланых тварцоў Лятувіскай сацыял-дэмакратычнай партыі іхнюю працу, аднавіла заняпалую ўжо крыху партыйную арганізацыю й шпарка развівала яе. У часе падзеяў 1905 году ў Вільні, калі не браць Бунду, Лятувіская сацыял-дэмакратычная партыя выступала як наймацнейшая палітычная група. З Вільні партыйная праца шырылася па ўсім краі й заносіла рэвалюцыйны рух усё далей у лятувіскую вёску. У Вільні мне давялося жыць летнімі вакацыямі ад 1899 году; а з набліжэннем рэвалюцыі 1905 году — і праз увесь год.

Усё часцей сустракаўся я й з Алёйзай Пашкевічанкай. Беларускіх дзеячоў у Вільні было ўжо больш. У Вільні жылі тады Антон і Іван Луцкевічы; часта наведваў Вільню Вацлаў Іваноўскі; у беларускай працы браў удзел студэнт Пранцішак Умястоўскі. За Беларуса сябе ўважаў і грашыма беларускую справу падтрымваў собснік вялікага складу земляробскіх машынаў у Вільні Зыгмант Нагродскі. У асяроддзі беларускіх дзеячоў часта ўспаміналіся імёны Якуба Коласа й Янкі Купалы. Радзей і куды пазней — ксяндза Адама Станкевіча.

Сталым Цётчыным ад'ютантам быў Бурбіс, Лятувіс з прозвішча і Беларус з пераканання. Асяродак беларускай дзейнасці канцэнтраваўся тады ў Вільні. Ад 1903 году дзеіла тут ужо Беларуская Рэвалюцыйная Грамада, арганізацыя выразна сацыялістычнага кірунку, якая намагалася знайсці сувязь з работнікамі ды рамеснікамі і ў самой Вільні.

У 1906 годзе пачынаюць выходзіць у Вільні беларускія тыднёвікі, спачатку «Наша Доля», а пасля «Наша Ніва». Для Цёткі-Пашкевічанкі была гэта ці не найбольш інтэнсіўная пара ейнай палітычна-грамадскай працы. Поўна было яе ўсюды. Працавала ў газэце, брала ўдзел у сходах, спробавала прамаўляць на мітынгах, выступала як прадстаўніца «Беларускай Сацыялістычнай грамады» на нарадах дэлегатаў рэвалюцыйных партыяў. На гэтым адрэзку напружанай грамадскай працы яна, здаецца, і пачынала спрабаваць свае паэтычныя здольнасці. Прынамсі, ейны «Хрэст на свабоду» ў 1905 годзе быў адным з найпапулярнейшых і публічна дэкламаваных вершаў. У асобе Цёткі малады беларускі рух здабыў не толькі аддадную ўсёй душой працаўніцу, але й няўтомную ініцыятарку самога руху.

Тагачасныя лятувіска-беларускія дачыненні ў Вільні адзначала шчырая прыязнь. Маладым лятувіскаму і беларускаму рухам даводзілася здабываць сабе ў разнамоўнай Вільні месца й роўныя з іншымі грамадскія правы. Лёгка гэта не было. Над грамадскім, культурным, а часткова й палітычным жыццём «хрысціянскага» віленскага грамадзянства дамінавалі тады поўнасцяй мясцовыя Палякі. Эліту гэтых «тутэйшых» Палякаў тварыла інтэлігенцыя, што паходзіла з лятувіскай і беларускай шляхты, абшарнікі, што прыехалі з места, часткова прадстаўнікі фінансавага капіталу, настаўлены па-польску каталіцкі клер ды збагацелыя часткі мяшчанства. Гэтая вось эліта абапіралася на апалячаны віленскі плебс і адчувала сябе за бясспрэчнага гаспадара ў касцёле, у справе места, на віленскіх вуліцах ды тварыла грамадскую думку Вільні. Гэтыя віленскія Палякі, тутэйшыя людзі, што хутка нарадзіліся й выраслі, былі на свой лад звязаныя з доляю гэтага краю. Яны па-свойму зжыліся з людзьмі, па-свойму асэнсоўвалі гістарычныя традыцыі краю, былі зайздросныя за сваю пазіцыю ў грамадзянстве й з злосным падазрэннем сустрэлі новыя, што выйшлі з народу, рухі. У змаганні за сваю будучыню Лятувісы і Беларусы стварылі супольны фронт супроць віленскіх Палякоў і былі добрымі сябрамі. Пытанне тэрытарыяльнага размежавання абодвух рухаў, а разам і пытанне дзяржаўнай прыналежнасці Віленшчыны тады ў паважнейшай форме не паўставала.

Жывучы тады ў Вільні, Пашкевічанка-Цётка жыла сярод свае сям'і. Ейныя два браты, Вацлаў і Язэп Пашкевічы, абодва афіцэры Маладзечанскага палка, нежанатыя, мелі супольнае памяшканне на Сніпішках. Братоў наведвалі прыездам з правінцыі старэйшая сястра Стэфанія і маладзейшая Караліна. Наймаладзейшая Цётчына сястра — Зофія — паказвалася тады ў Вільні рэдка. У братоў жыла й Алёйза.

Паводле нацыянальнай свядомасці Цётчына сям'я была неаднаагітная, адначасна й своеасаблівa «тутэйшая». Хатняя мова была польская, польская таго асаблівага характару, які яна мела ў дробнай шляхты Летувы й Беларусі і на які гэтак сваеасабліва ўплывалі сінтаксіс, вымова й слоўнік мясцовых моваў. Цётчына матка была пад найбольшым уплывам польскай культуры. Старэйшая сястра Стэфанія была па-панску настаўленая й выразна аддавала першыню польскай мове. Прыхільнасць да польскай культуры выяўлялі брат Вацлаў і сёстры Караліна ды Зофія. Найбольш за ўсіх з беларускай вёскай і беларускай мовай зросся Цётчын бацька і ейны брат Язэп.

Дзейнага падтрымання сваёй беларускай нацыянальнай працы ад сяброў свае сям'і Цётка не мела. Але й ейны ўдзел у беларускім руху не ўважаўся ў сям'і за нейкае няшчасце.

У канцы 1905 году, пасля залому работніцкага паўстання ў Маскве, пачала заломвацца і ўся рэвалюцыя. Пачала ўсё мацней бушаваць рэакцыя, налягаючы першым чынам на краі, што адзначыліся рэвалюцыйнымі дня-

**Матэрыял друкуецца з невялікімі граматычнымі праўкамі.**

мі, гэтым самым на Летуву, Беларусь, а разам і Вільню. Адначасна з Рэвалюцыяй апалі й рэвалюцыйныя настроі, слабела рэвалюцыйная праца, якую часткова даводзілася пераносіць у падземелле.

Цётка-Пашкевічанка з ейным выбуховым характарам і балючай пачуцёвасцю глыбей за іншых паддалася часоваму песімізму.

У Пецярбург канчаць курсы прафесара Лесгафта яна больш не паехала. У адной беларускай хрэстаматыі я натрапіў на цверджанне, быццам за нелегальную працу Цётцы пагражала судовая справа, і дзеля гэтага яна была змушаная перабрацца за межы. Нашыя дачыненні не былі яшчэ вельмі блізкія, і супроць гэтага цверджання я не мог бы катэгарычна запярэчыць. Мне ўсё ж выдаецца, што не пагроза кары навяла Алёйзу Пашкевічанку на думку выезду за межы на далейшыя студы. На пачатку 1906 году яна ўжо напэўна была ў Кракаве й пачала студыяваць літаратуру на Кракаўскім універсітэце. У часе бытнасці ў Кракаве Цётка пазнала на сцэне слаўную тады драматычную артыстку Сольскую ды была захопленая ейнаю ігрою. Пад уплывам ігры Сольскай Цётка зацікавілася тэатрам наогул і, калі не мыляюся, нейкі час наведвала драматычную студыю Сольскай, спрабуючы сваіх здольнасцяў на сцэне.

Ужо ладна пазней, у 1913 годзе, калі стала жыла ў Вільні, Алёйза Пашкевічанка-Кайрыс паклала шмат патугаў, каб зарганізаваць і рыхтаваць трупу беларускіх артыстых-аматараў для гастроляў па меншых мястэчках Віленшчыны. На адным такім паказе ў Вялейцы давялося і мне пабыць.

Алёйза Пашкевічанка, якая кожнай працы аддавалася ўсёй сваёй душою, не ўмела сцерагчы свайго здароўя. Яна не знала супачынку, калі трэба было нешта тэрмінова выканаць. За працаю часта забывалася, што трэба й есці.



Помнік Цётцы ў г. п. Астрыно.

Калі была студэнткаю ў Кракаве, не хацела зварачацца да блізкіх па дапамогу ды часта забывалася й галадавала. Як найменш рупілася пра свае ўборы — ёй усё йшло. Нядбайнасць пра сваё здароўе з часам памсцілася.

Ранняю вясною 1907 году мне давялося браць удзел у агульным з'ездзе Расейскай Сацыял-дэмакратычнай партыі ў Лондане. Па дарозе назад у Летуву я завярнуў у Закапанае. У Закапаным, у гуральскай хаціне, знайшоў хворую на лёгкія Цётку,— як заўсёды жвавую, чуйкую на падзеі й найменш дбайную пра сябе. Працэс у лёгкіх толькі пачынаўся, аднак для залячэння яго канечнымі былі чыстае горнае паветра, як найболып сонца ды магчыма лепшая яда. Пра гэта, аднак, Цётка і ў Закапаным найменш рупілася. Засталася тамака на ўсё лета. З бліжэйшых прыяцеляў мела яна ў Закапаным хворага тады ж на лёгкія Вітаўта Чыжа, студэнта з Ашмянскага павету, што студыяваў тэхніку ў Львове. Яна там зсябравалася блізка з Енасам ды Юліяй Білюнасамі. Енас Білюнас, цяжка вынішчаны сухотамі, дажываў у Закапаным тады свой апошні год.

Алёйза Пашкевічанка прабыла ў Закапаным ці не да канца 1907 году — наведаў я яе там яшчэ раз увосені таго ж году — папраўілася з лёгкімі й перабралася на студыі ў Львоўскі універсітэт, на гістарычна-філалагічны факультэт. Для свае дыпломнае працы ўзяла спачатку гістарычную тэму: паўстанне Свідрыгайлы. Пазней тэму змяніла й пачала збіраць матэр'ял пра «беларускую батлейку». Гэтага матэр'ялу назбірала даволі шмат, працы, аднак, не напісала. (Можа, можна гэта спраўдзіць у Вітаўта Чыжа, калі яшчэ жыве; прынямся ў Вільні гэтай працы не пісала.) На Львоўскім універсітэце Алёйза Пашкевічанка студыявала да 1911 году.

Гады 1906-07 былі ў жыцці Пашкевічанкі гадамі перамены, але без балючых пераломаў. Выглядае, што акурат тады, пры ападанні рэвалюцыйнага руху ў Расеі, яна на даўжэйшы час адмяжавалася ад палітычнай дзейнасці ды аддавалася нацыянальна-культурнай працы. Новы кірунак набыла ад гэтага часу і ейная паэтычная творчасць, напісаныя ёю белетрыстычнага характару абразкі. Цётка прыціхла, хоць жывых сувязяў з наваколным жыццём і не зрывала. Яна брала цяпер яго такім, які яно было. Не падыходзіла б да Цётчынага характару, каб яна й тады не верыла ў святлейшую будучыню свайго народу. Песімізм, які й на яе ці раз моцна нападаў, ніколі не ўплываў на ейную станоўкасць працаваць і на ейную веру ў поступ чалавецтва, а разам і свайго краю. Гэтай культурнай працы Цётка аддала ўсю пазнейшую пару свайго жыцця, калі, пасля замужжа, зажыла настала — аж да пачатку Першай сусветнай вайны — у Вільні. Найбольш працы й цёплай рупнасці аддавала тады выданню часопісу для моладзі «Лучынка».

Студыюючы на універсітэце ў Львове, Алёйза Пашкевіч не мела больших клопатаў з хваробаю лёгкіх. Штовясны наведвала бацькавіну. Нашыя дачыненні, што ставалі ўсё больш прыязьлівымі, ад 1906 году былі нагэтулькі блізкія, што ўлетку 1909 году яна гасціла ў мяне ў Мелікесе Самарскай губэрні, дзе я па сканчэнні ў 1908 годзе Інстытуту Тэхналогіі працаваў ужо інжынерам пры пабудове чыгуначных мастоў. У 1911 годзе Алёйза Пашкевіч другі раз наведала мяне, ужо на Куршчыне, на Украіне, дзе мне давялося выконваць разам з інжынерам Пётрам Вілейшысам пабудову мастоў Паўночна-Данскай чыгункі.

У канцы 1911 году я вярнуўся з Украіны й асяліўся ў Вільні. У лютым 1912 году мы пабраліся, і ад гэтай пары Цётка-Кайрыс жыла ўвесь час, аж да свае смерці, у Вільні, наведваючы рэдчас Менск, сваю бацькавіну, маю бацькавіну й Віленшчыну.

Уладзіліся мы вельмі сціпла, пастудэнцку, і на пачатку зажылі на Звярынцы. Цётка не цярпела мяшчанскага спосабу жыцця, і аж да Першай сусветнай вайны мы абыходзіліся памяшканнем з двох пакояў з кухняй. Наймічкі мы не мелі, хоць майго заробку на працы ў самаўрадзе места Вільні стала б і на крыху раскашнейшае жыццё, на абаіх знаць было яшчэ нядаўняе студэнцтва. Жонка не мела тады ніякай працы, што звязвала б яе, і ўвесь свой час аддавала справам беларускага руху. Шмат пісала. Не ўважаю за сваё заданне выказвацца пра Цётчыну творчасць. У сваю творчасць яна заўсёды ўкладала душу. Не заўсёды было ёй лёгка выказаць словамі перажыванні, пачуцці й думкі. Чарнавікі ейных друкаваных твораў паказваюць, што часта патрэбная была марудная праца, пакуль выражаныя думкі знаходзілі сабе адпаведную форму на паперы. Можа, дзеля гэтага Цётка не паспела стварыць гэтулькі, колькі абяцаў ейны перажываннямі наздзіў багаты ўнутраны свет.

Першая сусветная вайна, якая заспела нас у Вільні, адлістала і ў Цётчыным жыцці новую балонку. Давялося ёй бадай зусім абарваць працу, якую раней вяла. Выбухлая вайна стала перад усімі намі і поўная будучых магчымасцяў і, адначасна, жудасная сваёю штодзённаю рэчаіснасцяй. Ваенныя падзеі закраналі ўвесь час ды беспасрэдна й Вільню. Катастрофа расейскіх арміяў ува Усходніх Прусах запоўніла віленскія больніцы ранeнымі, хворымі на заразныя хваробы. Цётка не ўмела быць абыякавай да падзеяў, і ўвясну 1915 году падалася на працу сястрою міласэрдзя ў барак для заразных хваробаў у Вільні. Працавала да позняй восені. У беларускім друку можна сустрэць звестку пра тое, быццам Цётка была сястрою міласэрдзя на фронце. У сапраўднасці на фронце яна ніколі не была. Увосені гэтага ж года загінуў у франтавых баёх каля Горадна Цётчын брат Язэп. І гэта быў пачатак ідучых на яе няшчасцяў.

У 1915 годзе Вільня ўжо чакала нямецкай акупацыі. Падахвочаныя расейскімі ўладамі, жыхары краю, асабліва мяшчане, масава збіраліся да эвакуацыі ў Расею. Мы дамовіліся заставацца ў Вільні і ў Вільні дачакаліся Немцаў. Нямецкая акупацыя адразу спаралізавала грамадскае жыццё, спыніла выхад прэсы, не дапушчала арганізаванае дзейнасці, праз вайскова-адміністрацыйны апарат скавала ўвесь край ды пачала бязлітасна ачышчаць яго. Вільня адразу апынулася пад пагрозаю голаду. Трэба было ратаваць ад галоднай смерці дзяцей галоты й арганізаваць ім прытулкі. Неўзабаве пачалі галадаваць масавыя віленчукі, і Немцы былі змушаныя даць дазвол на арганізаванне публічных сталовак для народу ды прыдзялілі ім крыху й харчоў. Гэтак пачалася праца ратавання ад голаду, і Цётка жвава ў яе ўлучылася. Ды ненадоўга. У канцы 1915 года захварэў на сыпны тыфус ейны бацька, і яго павезлі ў больніцу ў Ліду. У студзені 1916 году бацька памёр. Па атрыманні паведамлення мы выехалі ў Ліду на пахавіны. Пасля пахавання старога Пашкевіча мы зімовую дарогаю, конямі, пры вялікім марозе паехалі на жончыну бацькавіну. Ейная сям'я была раскіданая, апрача памерлага бацькі й двох сыноў на вайне, адзін з якіх ужо загінуў, эвакуавалася ў Расею Цётчына маці й ейная малодшая сястра Караліна. Стары Двор апусцеў, у ім засталася толькі старэйшая сястра Стэфанія. Я працаваў у віленскім самаўрадзе й мусіў варочацца дамоў. Жонка засталася на некаторы час на бацькавіне. Пасля колькіх дзён я атрымаў тэлеграму, што й жонка небяспечна хворая. Таго ж дня выехаў фурманкаю й з Васілішак пехатою дабраўся да Старога Двара. Жонка ляжала непрытомная ўжо колькі дзён, хворая на той жа тыфус. Папрошаны з Васілішкаў лекар-Немец мала знаўся на лячэнні тыфусу, не памог нічога. Шукаць іншых лекараў было немагчыма: на месцы іх не было, а дабрацца да Вільні гэтымі часамі было блізу немагчыма; ды на гэта было ўжо запозна.

Алёйза Пашкевічанка-Кайрыс памерла 5 лютага 1916 году пад роднаю страхою, не прыходзячы да памяці. Пахавалі яе на бацькавіне. Паміж гасцінцам у Васілішкі, што йдзе каля самай сялібы Пашкевічаў, і дарогі, што адгалінаецца ад гэтага гасцінца ды йдзе ў сялібу, каля сялібнай агароджы, вырасла адзінотная магіла. Магілу сцеражэ дзераўяны, зроблены вясковым дойлідам крыж з надпісам, хто ляжыць у магіле. Быць пахаванаю блізка свайго дому жадала сама Цётка.

Ваенныя гады й пасляваенныя падзеі шмат што змянілі і ў маім жыцці. Пасля нямецкай акупацыі Вільні мы з жонкаю перабраліся з Звярынца ў места ды асяліліся на Пясковай вуліцы. У гэтым памяшканні перажыў я да 1918 году. У канцы гэнага году і з пачаткам пабудовы незалежнай Летувы, я выехаў з Вільні ў Утэнскі павет на арганізацыю мясцовага самаўраду й назад не вярнуўся.— Вільню заняла чырвоная армія, і з Капсукам сустрэцца мне не давялося. Пакінутыя ў памешканні мае рэчы — кнігі й Цётчыны рукапісы — узялі пад сваю апеку й перахавалі мае прыяцелі. Не знайшоў пазней толькі двох партрэтаў Цёткі, рысаваных вугалем мастаком Станейкам. Крыху пачакаўшы, знайшлася магчымасць забраць свае рэчы ў Коўню, дзе я асяліўся настала. Сярод захаваных рэчаў была й скрынка з рукапісамі Цёткі. Пасля я іх перагледзеў. Сярод іх нічога не знайшоў, што ўжо не паказалася ў беларускім друку, хіба найбольш у «Лучынцы». Гэта былі чарнавікі Цётчыных друкаваных вершаў і апавяданняў ды колькі незакончаных варыянтаў на тыя самыя тэмы. Адабраў тое, што мне здавалася больш вартасным у асобную папку й чакаў нагоды для навязання лучнасці з Цётчыным братам Вацлавам, каб высніць, якой беларускай арганізацыі маю гэтую спадчыну перадаць. Зрабіць гэта мне не ўдалося. Калі я ўлетку 1944 году ўпотайкі пакінуў Коўню, Цётчыны рукапісы засталіся там. Ці хоць нешта з мае собскасці, мае бібліятэкі й рукапісаў яшчэ сёння існуе — вельмі сумляваюся.

Алёйза Пашкевічанка-Кайрыс пакінула жыццё быццам скрадкам у вабмерлай дзеля вайны вясковай глушы. Пакінула супраць свае волі. Жыць і быць дзейным удзельнікам жыцця хацела Цётка. Сямейныя няшчасці апошніх месяцаў ударылі па ёй балюча; аднак жа тысячы ніцей, якімі яна была звязана з жыццём, засталіся мала кранутыя. Жыццё надзіла яе й далей. Вайна яшчэ не дайшла й да свае палавіны, але мы ўсе, разам і Цётка, чакалі не без надзеі, ейнага канца. Ці не прынясе ён і нашым краём новую будучыню? Цётчыны творчыя сілы яшчэ толькі даспявалі. Калі на самым пачатку грамадскае працы ейную творчасць пабуджаў паўсталы настрой рэвалюцыйных абставінаў, што быў зменны і дзеяў больш на пачуцці, дык пазнейшымі гадамі Цётка супакоілася ды бралася за больш сталыя заданні, кіруючыся выразна больш да арганічнай працы ў галіне культурнага жыцця, да культурных заданняў беларускага руху першым чынам. I хто ведае, мо вайна, што стварыла новыя, хай сабе й часовыя, жыццёвыя абставіны, ды суліла новае, хоць яшчэ й невыразнае будучае жыццё,—ці яна не была б пачаткам новай і ў Цётчыным жыцці й творчасці пары? Магчыма, у гэткую новую пару, мне здаецца, Цётка ўвайшла б яшчэ больш сталаю, узбагачанаю дазнаннем неаслабнай ахвярнасці для выбранай мэты жыцця. Любасці да людзей і свайго краю Цётцы заўсёды стала б настолькі доўга, колькі ёй было б прызначана жыць.

Кім была Пашкевічанка-Кайрыс паводле сваіх палітычна-сацыяльных поглядаў? Яна была адным з закладнікаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады ды ўважала сябе ўвесь час за сябру гэтай арганізацыі, не набіраючы, аднак, характэрных партыйнаму чалавеку якасцяў. Яе не вязалі пастановы партыйнае праграмы, і яна не гэтак ужо вельмі й пільнавала партыйнай дысцыпліны. Хоць «Беларуская грамада» была сацыялістычнаю арганізацыяй, Цётку не шмат цікавілі асновы тэорыі сацыялізму. Была ёй аднак жа сваёй маральная існасць сацыялізму. Яна была арганічна зліўшыся з народам свайго асяроддзя, і яе, як у творчасці, так і ў жыцці — заўсёды цягнула туды, дзе было больш гора, дзе больш крыўдзілі, паніжалі «малога» чалавека, дзе была ў ім паніжаная сама ягоная чалавецкасць. Гэта не выпадкам у сваёй творчасці Цётка шмат сэрца аддавала вясковаму асяроддзю самагаротнай, самапрыбітай істоце — вясковай жанчыне. Мне здаецца, што Цётка была сацыялісткаю дзеля свайго сэрца й чуйкай справядлівасці, значыцца самасапраўднай сацыялісткай, якая свае сілы й здольнасці прызначала змаганню з людской цемнатой, з людской крыўдай, з абешчалавечваннем і з злым рэжымам палітычнага ўціску й нягодамі сацыяльнага ладу. Ці непадзельная адданасць Цёткі беларускаму руху й ягоным заданням не мела чагосьці, што вызначалася б надмерна вузкім зацікаўленнем толькі «сваёй» беларускай справаю? Хоць Цётка ўсюды й заўсёды падчырквала сваю беларускасць і не дазваляла нікому зачапіць беларускую справу, у гэтай, аднак, своеасаблівай ваяўнічасці не было нейкай агрэсіўнасці супроць якой-небудзь іншай нацыянальнасці. Наведваючы разам маю бацькавіну, мне не раз даводзілася дзівіцца, як лёгка й «натуральна» Цётка ўлучалася ў новае ёй асяроддзе. Пасля дня гасцявання яна была ўжо «свая» сярод маіх блізкіх, хоць гэта й былі «гіргуны». Што дапамагала Цётцы вельмі борзда зліваіцца хай і з чужым сабе нацыянальна асяроддзем, дык гэта ейны людскі падыход да чалавека й пашана да яго. З Лятувісамі сябравала асабліва цёпла, і ў часе нашага жыцця ў Вільні наш даволі сціплы «таварыскі» круг складаўся блізу выключна з Лятувісаў і Беларусаў — сярод іх мы абое чуліся «сваімі».

Ваенныя гады раскідалі часткова як віленскіх Лятувісаў, гэтак і віленскіх Беларусаў. З канцом вайны пачаліся намаганні пабудовы незалежнай Летувы, і адначасова Беларусь паўстала як Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка з цэнтрам у Менску, залежная ад Масквы больш, як калі-небудзь на працягу свайго гістарычнага шляху.

Шмат старых знаёмстваў абарвалася. Пасля авантуры Жэлігоўскага змянілася згрунту й само віленскае жыццё. I адно колькі год пасля вайны, калі Беларусы пачалі разгортваць у Вільні сваё культурнае жыццё, давялося тады ізноў прыгадаць сабе з болем, што згубіў беларускі рух у асобе Цёткі.

«Конадні», Ню-Ёрк, 1954 г.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне Уладзіміру Верамейчыку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці сына.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Анатолю Кудраўцаву з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**



*Мартыралог Беларусі: імёны і факты*

# У энкавэдысцкім ПЕКЛЕ

У 1939 г. я скончыў 10 класаў Рэчыцкай школы і восенню паступіў у мясцовы аэраклуб. У маі 1940 г. у г. Ейску быў залічаны курсантам Ваенна-марскога авіяцыйнага вучылішча. Марыў стаць лётчыкам-знішчальнікам, і цяпер мара магла стаць рэальнасцю. Магла стаць...

Пасля нападу фашысцкай Германіі нас фарсіравана пачалі рыхтаваць да выпуску. Пасля гэтага я быў залічаны ў эскадрыллю, размешчаную за 16 кіламетраў ад Ейска. Тады мне давялося зрабіць два баявыя вылеты. Адзін, праўда, не вельмі ўдалы... На пачатку лістапада 1941 г. мы эвакуіраваліся на Каўказ, у станіцу Екацярынаградскую Кабардзіна-Балкарскай АССР, непадалёк ад горада Маздока. Мы ўсе рваліся ў бой, і ці мог я падумаць, што ніколі не траплю на фронт, што мне наканаваны зусім іншы лёс?

У адзін з дзён мой таварыш па эскадрыллі Павел Самсонаў шапнуў мне на вуха: «Цябе збіраюцца арыштаваць». Ён быў дзяжурным па штабе, калі перадавалася адпаведнае распараджэнне. Пад выглядам пераводу ў іншую эскадрыллю мяне выклікалі ў штаб і замкнулі ў адным з пакояў. Было гэта 22 лютага 1942 г.

Можна зразумець мой настрой—я не адчуваў ніякай віны за сабою. Чакаў, што мяне паклічуць, пагутараць, скажуць, у чым мяне абвінавачваюць. Неўзабаве ў пакоі побач са мной апынуўся ваентэхнік Іван Фёдаравіч Кажамякін, ураджэнец Ейска, дзе ў яго засталася жонка і двое дзяцей. Потым нашым суседам па зняволенні стане яшчэ адзін курсант вучылішча.

Праз колькі дзён нас прывезлі ў Маздок і здалі ў камеру папярэдняга зняволення. Знялі рамяні, абрэзалі гузікі. Так пачалося маё турэмнае жыццё.

Праз два тыдні, нарэшце, прад'явілі абвінавачанне: «Усхваленне фашысцкай тэхнікі. Вёў размовы сярод курсантаў аб тым, што ў Гітлера недурная галава. Яго партыя не сацыял-нацыяналістычная, а сацыял-дэмакратычная, што Гітлер падмануў Сталіна, і Сталін застаўся ў дурнях, а нам цяпер давядзецца за яго разлічвацца». На самай справе я ніколі не думаў гэтак пра Сталіна, мне ён уяўляўся тады Богам. Аператыўны ўпаўнаважаны Цюцюнін працягнуў загадзя падрыхтаваны тэкст і сказаў: «Не адмаўляйцеся, падпішыце, нікуды ад гэтага не дзенецеся». На мае пярэчанні адказаў: «Ну, калі вы з гэтым абвінавачаннем не згодны, то распішыцеся». — і паказаў пальцам, дзе паставіць подпіс.

Я не адмаўляў, што вёў размовы пра ваенную тэхніку немцаў. Мець уяўленне пра ўзбраенне праціўніка нам трэба было па праграме навучання. Усхваленне фашысцкай тэхнікі тут ні пры чым.

З Маздока мяне адвезлі ў Бакінскую турму, як быццам для вядзення следства. За месяц некалькі разоў вадзілі на допыт ноччу. Пастаю ў кабінеце следчага ля сценкі 1,5—2 гадзіны, потым ён выклікае ахоўнікаў і загадвае: «У карцар». З Баку трапіў у Пяцігорскую турму. Тут камеры былі перапоўнены зняволенымі, сядзелі літаральна адзін на адным, ноччу пераварочваліся з боку на бок па камандзе.

У жнівеньскі дзень 1942 г. з раніцы чуем нейкі шум, грукат. Даходзіць чарга і да нас: «Выходзь з рэчамі!» Выводзяць на турэмны двор, ён ужо ўвесь запоўнены арыштаванымі. Строяць у калоны, даюць па кавалку хлеба і па тры селядцы ў дарогу на тры дні. Гоняць этапам. Куды? Нічога не ведаем. Ішлі з Пяцігорска калонамі прыкладна каля дзвюх тысяч чалавек.

Калі праходзілі праз аулы, мясцовыя жыхары кідалі нам, што маглі. Аднойчы пры спробе злавіць пачастунак з садавінай я атрымаў ад канвойнага моцны ўдар прыкладам па галаве. Канваіры папярэджвалі: «Крок управа, крок улева лічу за ўцёкі. Страляю без папярэджання». Мы ішлі другі тыдзень. Памятаю такі выпадак. Па дарозе да нашай калоны падышла жанчына, трымаючы штосьці ў фартуху. З калоны выскачыў Максім, калгаснік з Пяцігорскага раёна, і жанчына высыпала яму ў шапку садавіну. Не паспеў ён стаць у калону, як яму стрэлілі проста ў спіну. Я сядзеў з ім у адной камеры, ведаў, што засталося ў яго пяцёра дзяцей. Максім абвінавачваўся па 58 артыкуле Крымінальнага кодэксу за так званую «контррэвалюцыйную агітацыю».

Ішлі праз поле, харчаваліся тым, што на ім знаходзілі. Пілі ваду з лужын. У канцы другога тыдня далі нам па паўлітровай бляшанцы нейкай мукі. На прывале, каля рачулкі, спрабавалі спячы з яе аладкі, расклалі вогнішча. Адзін малады хлопец адышоўся на некалькі крокаў сабраць ламачча. Гэта каштавала яму жыцця.

Усе мы вельмі пакутавалі на расстройства страўніка. Кажэўнікаў — прыгаданы ваентэхнік — сцякаў крывёй. Аднойчы, надвячоркам, нашы калоны падвялі да ракі, размясцілі ўздоўж берага. Канвой расставіў кулямёты. Папярэдзілі: ноччу не ўставаць, пры патрэбе апраўляцца пад сябе. Мой сусед, былы кадравы ваенны, мажны мужчына, паспрабаваў прысесці. Затрашчала кулямётная чарга. Ён упаў, абліваючыся крывёй. Усю ноч я праляжаў побач з ім, мёртвым, не варушачыся.

Многія не мелі сілы ісці далей. Людзі кідалі свае рэчы, толькі б не адстаць ад калоны, бо ўсіх абяссіленых бязлітасна расстрэльвалі.

Больш за месяц ішлі мы гэтым страшным этапам. Нарэшце, увайшлі ў турэмны двор Махачкалы. Пачалі нас «лячыць» ад расстройства страўніка марганцоўкай. Прабылі там дзень-два. На трэці пагналі на пасадку ў таварныя вагоны. Набілі іх так, што нельга было паварушыцца. Гэта было яшчэ адно жахлівае выпрабаванне.

Прыбылі ў Баку. Час быў асенні. Пачалася пасадка на нейкі вялікі таварны параход. Вечарам ён адчаліў ад берага. Палуба перапоўнена зняволенымі, трумы таксама. Ноччу разгуляўся шторм. Я яшчэ меў трохі сілы, дапоўз да сярэдзіны палубы, учапіўся за нейкія дошкі, шчыльна закрыў галаву і гэтак трымаўся ўсю ноч. Пад раніцу шторм аціх. Я падняўся і ўбачыў, што палуба напалову апусцела. Усіх зняволеных, што былі скраю, у час шторму змыла ў мора. Ніякага канвою не было відаць. Але калі пачалі падыходзіць да берага, ён адразу з'явіўся.

Мы знаходзіліся ўжо ў Краснаводску. Размясцілі нас за горадам, на адкрытым месцы. Ноччу холадна, вецер мяце пясок. Аднойчы павялі ў лазню. Думаў, пап'ю там гарачай вадзіцы. Аказалася, яна салёная. На дзень давалі хлеба па 400 грамаў і вадзілі «на вадапой». Паілі з тых жа карытаў, з якіх паілі авечак і вярблюдаў. Першы раз я выпіў восем паўлітровых слоікаў вады. Наліў вады і ў боты — сабе і свайму хвораму сябру. Зноў шарангаванне, знясільваючы марш, потым пасадка ў таварныя вагоны.

У Краснаводску я развітаўся са сваім сябрам Кажамякіным. Ён канчаткова знясілеў і ўжо не мог ісці. Прасіў, калі я застануся жывы, паведаміць пра яго родным у г. Ейск. Пра далейшы яго лёс нічога не ведаю...

Паміж Краснаводскам і Ташкентам, напэўна, на тэрыторыі Туркменскай ССР, нам арганізавалі «лазню» проста ў вагоне. Усім зняволеным загадалі распрануцца і з пажарнага брандспойта пачалі паліваць халоднай вадой.

Каля Ташкента далі папіць вады, усунулі ў рукі па кавалку хлеба. Колькі дзён і начэй зноў ехалі — не помню.

Нарэшце эшалон спыніўся ў Краснаярску. Нас вывелі з вагонаў на пастраенне. На двары лютая зіма, снег, мароз. Палавіна зэкаў босыя і распранутыя. Зноў загналі ў вагоны. Эшалон накіравалі ў тупік, дзе мы ноччу ледзь не замерзлі.

Раніцай прывезлі адзенне — армейскае спісанае барахло. Апранулі ў гэтае рыззё і развезлі па камерах Краснаярскай турмы. Трапіў я ў вялікую камеру з нарамі, было нас чалавек, пэўна, 250. Калі размясціліся і палеглі, спалі каля двух сутак. Нас чамусьці не чапалі. Мы не прасілі ні піць, ні есці, спалі непрабудным сном пасля перажытых пакут.

Прасядзеў я ў гэтай турме да чэрвеня 1943 г. Выклікаюць мяне і яшчэ двух сяброў па няшчасці і зачытваюць нам прысуд «Надзвычайнай нарады». Тым двум па 10, мне — 8 гадоў зняволення ў выпраўленча-працоўных лагерах.

Трапляю ў рассыльную камеру. Адтуль вязуць у так званы «камендантскі лагер». Помню першае ўражанне ад таго лагера. Каля аднаго з баракаў грэлася на сонцы прыкладна з тузін зняволеных, якія выглядалі шкілетамі, абцягнутымі скурай.

Праз тыдзень раніцай мне кажуць: «Вось твая брыгада, у ёй будзеш працаваць і жыць». Гэта была рэжымная брыгада, якая складалася з адных галаварэзаў і злодзеяў. Прыйшлі на месца працы. Трэба было пракладаць у балоцістых мясцінах лежневую дарогу.

Калі прывезлі абед, мне ў баланду нехта паклаў галоўку сібірскай цыбулі, якая расце ў балоце. На смак яна як звычайная цыбуля, але, фактычна, з'яўляецца страшэннай атрутай.

Пасля з'едзенай баланды я страціў прытомнасць. Мяне распранулі дагала, кінулі ў прычэп, і трактар пацягнуўся ў лагер.

Каля тыдня праляжаў непрытомны. Потым крыху ачуняў, але на першым часе нічога не мог успомніць. Дзе я, што са мной? Пытаюся ў днявальнага, дзе знаходжуся, у адказ чую брудную лаянку. Злез з нараў, выйшаў з барака. Пачаў хадзіць па лагеры. Напружваюся, хачу што-небудзь даведацца, успомніць і нічога не атрымліваецца. Падышоў да аднаго барака, чытаю: «Мед. пункт». Зайшоў, і ўрач (таксама з зняволеных) пачала прыгадваць, што адбылося са мной, і накіравала ў стацыянар на лячэнне.

Неўзабаве мяне перавялі ў другі лагер, дзе я будаваў лесапільны завод, лежневыя дарогі. Працаваў на павале лесу.

Колькі мне давялося быць у зняволенні, помню, заўсёды быў галодны. Елі ўсё, што траплялася: траву, жаб, сабак, птушак, адкопвалі здохлых коней. Усе думкі вязняў, здавалася, былі пра ежу.

Ці трэба казаць, што смяротнасць у лагерах была масавая. Запомнілася, як праводзілі вязня ў апошні шлях. Памерлага клалі на калёсы, так, каб галава звісала ззаду. Каля варот ахоўнік цяжкім молатам разбіваў галаву нябожчыка. Рабілася гэта дзеля перастрахоўкі, каб не быў вывезены жывы зэк.

Дарэшты змарнелы і хворы я быў вызвалены ў жніўні 1949 г. і неўзабаве прыехаў у Рэчыцу да сваіх бацькоў. Тут маёй сумнай гісторыі не ведалі, што памагло ў маім далейшым лёсе.

Мая справа была перагледжана ваенным трыбуналам Паўночна-Казахскай ваеннай акругі 30 кастрычніка 1964 г. У даведцы, прысланай мне, сказана: «Постановление от 18.II.1942 г. в отношении Матлаша И. М. отменено и дело о нем производством прекращено за отсутствием состава преступления. Матлаш Иван Маркович по данному делу полностью реабилитирован».

Пасля вызвалення з лагераў у мяне пачаліся моцныя галаўныя болі, якія працягваюцца дагэтуль. На працягу многіх гадоў пакутаваў ад бяссонніцы.

**І. МАТЛАШ.**

г. Рэчыца.

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

## З імем Буйло звязана

**Вішнева... Вёска ў Валожынскім раёне. Такая, якіх шмат на беларускай зямлі, і разам з тым адметная. Менавіта ў Вішневе правяла маленства вядомая беларуская паэтэса Канстанцыя Буйло, тут прайшлі і гады яе маладосці. У Вішневе яна пазнаёмілася з Уладзіслававай Францаўнай Луцэвіч, будучай жонкай Янкі Купалы. У Вішнева вярнулася і на вечны спачын. У маі 1989 года па волі сына паэтэсы Яўгена Вітальевіча Калечыца на тутэйшых могілках быў перазахаваны прах К. Буйло, а на магіле з'явіўся сціплы помнік.**

**Нядаўна ж Савет Міністраў БССР пастанавіў прысвоіць Вішнеўскай школе імя Канстанцыі Буйло.**

**НАШ КАР.**

## Агонь паэзіі

**Дваццаць гадоў назад, у 1970 годзе выйшла першая кніга паэзіі Ніны Мацяш «Агонь». Гэтаму, можна сказаць, першаму юбілею ў жыцці паэткі быў прысвечаны вечар, што прайшоў нядаўна ў Белаазёрску. У гарадскім Палацы культуры сабраліся не толькі жыхары горада беларускіх энергетыкаў, але і прыхільнікі таленту паэтэсы — настаўнікі роднай мовы і літаратуры — з розных куткоў Брэстчыны.**

**Вечар адкрылі блізкія сяброўкі Н. Мацяш Галіна Скарына і Раіса Жмачынская. Гучалі вершы Н. Мацяш, прыязныя словы ў яе адрас.**

**В. ГУК.**

Пінскі раён.







Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.**

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара —33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ —33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ —33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ —33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА—33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ —33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС, Юрась ЗАЛОСКА—33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ —33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.**

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.**

**Рэдакцыйная калегія:**
**Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГІЛЕП, Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.**

**Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.**

**Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**